*Золатавалютныя рэзервы Беларусі ў 2019 годзе выраслі на 31,2 працэнта – да 9,4 мільярда долараў.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 3 (4461)

10 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Кошт Незалежнасці

*Толькі за ўчарашні дзень удзельнікам акцый у абарону суверэнітэту Беларусі прысудзілі каля 35 тысяч рублёў штрафаў.*



**Ці думаў экс-амбасадар Беларусі ў Нямеччыне, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання Пётр Садоўскі *(на фота справа)*, што яго будуць судзіць за абарону Незалежнасці роднай краіны?..**

Судовыя працэсы пачаліся яшчэ да Новага года. Многім выпісвалі штрафы, а 11 чалавек асудзілі да адміністрацыйнага арышту, і некаторыя да гэтага часу адбываюць пакаранне ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

Пасля святаў пайшла новая хваля судоў па ўсёй краіне (хаця асноўныя працэсы – у Мінску), якая ўжо нагадвае канвеер. Напрыклад, 8 студзеня былі асуджаны дзевяць чалавек да штрафаў ад 270 да 1350 рублёў. Агульная сума, якую прысудзілі ў гэты дзень тым, хто выйшаў на вуліцу ў абарону незалежнасці, склала 6885 рублёў (каля 3300 долараў)!

Учора ў Мінску і іншых гарадах краіны прайшлі больш за 30 (!) судоў па тым жа артыкуле (удзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах), хаця некаторыя справы адпраўлены на дапрацоўку, як гэта адбылося ў выпадку з кандыдатам філалагічных навук **Лявонам Баршчэўскім.**

Улады па-свойму ацанілі турботы людзей пра Незалежнасць. Паглядзіце, якія штрафы выпісвалі ўчора:

**Віталь Трыгубаў, Наталля Ладуцька, Ганна Шапуцька** – па 675 рублёў;

**Уладзімір Някляеў, Пётр Садоўскі, Анатоль Лябедзька, Аляксей Марачкін, Барыс Анікееў, Аляксей Сюдак, Юрый Татур** – па 810 рублёў;

**Віктар Кавалькоў (айцец Вікенцій), Андрэй Шарэнда, Яўген Батура, Алена Талстая і Павел Севярынец** – па 1350 рублёў.

Дарэчы, Севярынца судзілі без яго ўдзелу, бо ён толькі сёння выйдзе з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў, дзе знаходзіцца на "сутках" за папярэднюю акцыю.

А, напрыклад, **Максім Урбановіч** і **Мікалай Казлоў** атрымалі ў адзін дзень па два штрафы – агулам па 2700 рублёў кожны.

Праваабаронцы падлічылі, што агульная сума штрафаў за 9 студзеня склала каля 35 тысяч рублёў, а з улікам штрафаў тых, каго асудзілі раней, – каля 56 тысяч!

– Як бачым, рэпрэсіі ў краіне працягваюцца, – кажа выконваючы абавязкі старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалай КАЗЛОЎ**. – Зараз адбываецца свайго роду акцыя застрашэння грамадства. Можна лупіць чалавека міліцэйскай гумавай палкай па спіне, а можна яго проста забіць фінансава. І яшчэ пытанне: што лепш, а што горш?

**– Як вы ацэньваеце сумы штрафаў, што прысуджаюць?**

– Яны проста неверагодныя! Гэта проста фінансавае знішчэнне людзей. Прысуды нічым эканамічна не абгрунтаваны. І галоўнае, як мне падаецца, няма нават нагоды для таго, каб абаронцаў незалежнасці судзілі.

Уявіце сабе, што на вуліцы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй, сабраліся людзі, якія проста хацелі сказаць, што для іх Незалежнасць краіны – гэта вельмі важна. Калі крыніца ўлады – народ, то народ мае права голасу. Але што адказвае ўлада? Маўляў, ваша справа – толькі сядзець пад венікам. Сядзіце ціха і нічога не патрабуйце, а мы самі вырашым, што вам патрэбна. Як вырашым – так і будзеце жыць. А калі з гэтым не згодныя, то атрымайце штраф, а то і за краты можаце адправіцца на "суткі".

**– Вы будзеце абскарджваць рашэнне раённага суда?**

– Пакуль не ведаю. З аднаго боку, калі падыходзіць да справы прынцыпова, то трэба абавязкова прайсці ўсе ступені абскарджвання. А з іншага – я цудоўна разумею, што ў любых судовых інстанцыях працуе адна і тая ж сістэма. Яшчэ буду думаць…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВІНШУЕМ!

## Новыя лаўрэаты прэміі «За духоўнае адраджэнне»

Па выніках 2019 года прысуджаны пяць прэмій «За духоўнае адраджэнне». Сярод лаўрэатаў:

– настаяцель прыхода храма Святой роўнаапостальнай Марыі Магдаліны горада Мінска протаіерэй Іаан (Іван) Харашэвіч – за значны ўклад ва ўмацаванне ідэй міласэрнасці і арганізацыю работы Дома духоўнай асветы;

– Беларускае грамадскае аб'яднанне ветэранаў – за актыўную гуманітарную дзейнасць па аказанні дапамогі ветэранам і ўвекавечанні памяці аб Вялікай Айчыннай вайне;

– калектыў грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя шматдзетных бацькоў» – за вялікую работу па матэрыяльнай і маральнай падтрымцы шматдзетных сем'яў, рэалізацыю гуманітарных праектаў «Конкурс на лепшую шматдзетную сям'ю», «Мінскі гарадскі форум маці», тэлепраекта «Родныя людзі»;

– калектыў філіяла «Археалагічны музей «Бярэсце» ўстановы культуры «Брэсцкі абласны краязнаўчы музей» – за актыўную дзейнасць па захаванні нацыянальнага культурнага здабытку і стварэнне абноўленай экспазіцыі філіяла музея;

– аўтарскі калектыў у складзе акадэміка-сакратара аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандра Кавалені, галоўнага рэдактара РУП «Белкартаграфія» Галіны Ляхавай, дырэктара ДУ «Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі» Вячаслава Насевіча – за стварэнне фундаментальнага картаграфічнага выдання «Вялікі гістарычны атлас Беларусі».

### 10 спецыяльных прэмій

За выдатныя дасягненні ў сферы прафесійнага мастацтва, народнай і аматарскай мастацкай творчасці, навучання і патрыятычнага выхавання творчай моладзі, дабрачыннай дзейнасці, якія атрымалі грамадскае прызнанне, прысуджаны 10 спецыяльных прэмій Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва.

УЧОРА

## Беларусь і ЕС падпісалі пагадненне аб спрашчэнні выдачы віз



Беларусь і Еўрапейскі Саюз учора падпісалі пагадненні аб спрашчэнні выдачы віз і аб рэадмісіі асоб, якія знаходзяцца без дазволу.

Цырымонія адбылася ў Бруселі. Ад беларускага боку подпісы пад пагадненнямі паставіў міністр замежных спраў **Уладзімір Макей**. Еўрасаюз прадстаўлялі намеснік прэм'ер-міністра – міністр унутраных спраў Харватыі **Давар Бажынавіч** (Харватыя цяпер старшынствуе ў Еўрапейскім савеце) і еўрапейскі камісар па ўнутраных справах **Ільва Ёхансан**.

### Што прадугледжвае візавае пагадненне з ЕС?

Яно прадугледжвае ўзаемнае аблягчэнне візавых працэдур для шырокай катэгорыі грамадзян і зніжэнне збору. Пры гэтым будзе забяспечана права грамадзян звяртацца за атрыманнем віз як у пасольствы еўрапейскіх краін, так і ў візавыя цэнтры.

Кошт «шэнгена» для беларусаў знізіцца да 35 еўра, а рашэнне аб выдачы візы будзе прымацца ў тэрмін да 10 дзён (у выпадку дадатковай праверкі тэрмін можа павялічыцца да 30 дзён). Многія катэгорыі грамадзян у залежнасці ад мэты паездкі змогуць звяртацца за візай без выплаты збору і атрымліваць шматразовыя візы з больш працяглым тэрмінам дзеяння ў спрошчаным парадку.

Беларуская віза для грамадзян ЕС таксама патаннее да 35 еўра. Акрамя таго, будзе павялічаны пералік падстаў для выдачы бясплатных віз у некамерцыйных мэтах. Тэрмін знаходжання замежных грамадзян у Беларусі павялічыцца ў два разы: з 90 дзён на год (цяпер) да 180.

### Калі патаннеюць візы для беларусаў?

Пасля падпісання дакументы павінны быць ратыфікаваны Нацыянальным сходам Беларусі і адобраны Еўрапейскім парламентам. Пачнуць яны дзейнічаць у першы дзень другога месяца пасля даты паведамлення бакамі адзін аднаму аб завяршэнні працэдур ратыфікацыі. Гэта значыць, чакаць давядзецца некалькі месяцаў.

На пачатку лютага пачне дзейнічаць абноўлены Візавы кодэкс Еўрапейскага Саюза, які прадугледжвае павышэнне кошту візавага збору да 80 еўра. Для беларусаў гэта цана будзе дзейнічаць да таго часу, пакуль не ўступіць у сілу пагадненне з ЕС. Толькі пасля гэтага збор аўтаматычна знізіцца з 80 да 35 еўра.

### У чым сутнасць пагаднення аб рэадмісіі?

З уступленнем дакумента ў сілу Беларусь і Еўрапейскі Саюз павінны будуць ажыццяўляць рэадмісію (прыём назад на сваю тэрыторыю) уласных грамадзян, грамадзян трэціх дзяржаў і асоб без грамадзянства, якія не адпавядаюць або перасталі адпавядаць крытэрыям легальнасці на тэрыторыях адзін аднаго.

У пагадненні замацавана прадстаўленне Беларусі двухгадовага пераходнага перыяду адносна рэадмісіі грамадзян трэціх краін. У сумеснай дэкларацыі да пагаднення змешчана абавязацельства Еўрасаюза аб аказанні краіне тэхнічнай і фінансавай падтрымкі ў гэтай галіне.

«Паводле кансалідаванай думкі беларускіх дзяржаўных органаў, гэта пагадненне не нясе значных міграцыйных рызык для Беларусі», – раней заяўлялі ў МЗС.

(БЕЛТА.)

ТЫМ ЧАСАМ

## Еўрапейскі Саюз не будзе зацягваць ратыфікацыю пагадненняў…

ЕС паабяцаў не зацягваць ратыфікацыйныя працэдуры па падпісаных сёння ў Бруселі пагадненнях з Беларуссю аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі. Адпаведную заяву зрабіла еўрапейскі камісар па ўнутраных справах **Ільва Ёхансан** у час падпісання дакументаў.

## Беларусь ратыфікуе пагадненне на вясенняй сесіі

Беларускія парламентарыі плануюць ратыфікаваць пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму з ЕС на вясенняй сесіі. Аб гэтым учора журналістам заявіў старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах **Андрэй Савіных**.

УСМЕШКА МАСТАКА




Прызначаючы Аляксандра Чарвякова міністрам эканомікі, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка даў яму заданне ўключыцца ў пошук новых крыніц пастаўкі ў Беларусь нафты.

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНАЯ АКЦИЯ

## Продолжается сбор средств для подписки на «Народную Волю» (для публичных библиотек) на второй квартал…

В очередной раз хотим добрым людям сказать спасибо! Общими усилиями собраны средства и оформлена подписка на "Народную Волю" для 600 публичных библиотек на первый квартал 2020 года.

Но важно, чтобы наша газета находилась в читальных залах и в апреле–июне. А поэтому **благотворительная акция по сбору денег ПРОДОЛЖАЕТСЯ.**

Большие списки тех, кто пожертвовал на благое дело, были напечатаны в 97-м, 99-м и 102-м номерах "Народной Воли" за 2019 год. Сегодня публикуем фамилии тех, кто откликнулся на просьбу редакции в последние дни.

Сенько З.Р.
Прихожая Мария Васильевна
Малевич Марат Александрович
Сидляревич М.В.
Сухарукова
Фенчук Т.Д.
Туля А.И.
Гаманович Николай Михайлович
Жирнова Валентина Николаевна
Короткевич Валентина Стефановна
Пасюк Георгий Иванович

**Большое спасибо Вам, дорогие друзья!**

Благотворительная акция завершится тогда, когда будет собрана в полном объеме необходимая денежная сумма.

Напоминаем: реквизиты для перечисления денег (произвольным платежом с отметкой «*Подписка для библиотек*») прежние:

**220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**Банковские реквизиты:**
**Р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**в «Приорбанке» ОАО, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Одновременно хотим сказать: выражая искреннюю благодарность всем благотворителям, редакция газеты «Народная Воля» всегда готова наладить с Вами самые тесные отношения. Рады будем видеть Вас в нашем офисе по адресу: **Минск, ул.Энгельса, 34а**.

Контактный телефон: **8-017-328-68-71.**

ТЕНДЕНЦИЯ

## В Литве за 11 месяцев прошлого года трудоустроилось около 1,8 тысячи белорусов

Служба занятости Литвы сообщила, что в период с января по ноябрь 2019 года выдала иностранцам 8,4 тысячи разрешений на работу в Литве – и это в 1,7 раза больше, чем за аналогичный период прошлого года. По данным службы занятости, на это повлияло упрощение процесса выдачи разрешений на работу и визовых процедур, а также нехватка рабочей силы в некоторых секторах экономики.

Иностранцы, получившие документы от службы занятости в прошлом году, приехали из 58 стран, причем 60% из них прибыли из Украины, 21% – из Беларуси, по 3% – из России и Узбекистана, по 2% – из Китая и Грузии. Если исходить из этих данных, получается, что за 11 месяцев прошлого года в Литве трудоустроилось около 1,8 тысячи белорусов.

ПО СЛУХАМ И...

# Гродненскую «табачку» пока не закрывают




Накануне новогодних праздников ко мне обратились несколько земляков-гродненцев с одним и тем же вопросом: правда ли, что власти собираются закрыть гродненскую табачную фабрику? Версии высказывались разные. Согласно одной, речь шла о строительстве новых корпусов фабрики на окраине Гродно и перепрофилировании старых зданий под нужды фармацевтической промышленности. Согласно другой, будет построено совершенно новое предприятие по производству табачной продукции – и вовсе не обязательно в Гродно; и якобы за этим проектом стоит кто-то из ближайшего окружения президента.

В телефонном разговоре Анастасия Хоботова, пресс-секретарь концерна «Белгоспищепром», куда входит и ОАО «Гродненская табачная фабрика «Неман», сообщила, что таких планов – во всяком случае пока – у руководства нет, но если вдруг ситуация изменится, то официальная информация появится на сайте концерна. Действительно, лучше пользоваться достоверной и проверенной информацией, а не городскими слухами.

Соглашаясь с этой мыслью, нужно, однако, заметить, что некоторые основания для возникновения слухов имеются. Как раз накануне Рождества на одном из сайтов появилась информация о топ-5 советских брендов, которые потеряла Беларусь. Среди них оказались достаточно крупные предприятия, как, например, Минский завод строительных материалов или Брестский завод бытовой химии, который находится в процессе ликвидации. Буквально на днях стало известно, что закрывается и Пинская спичечная фабрика.

В отличие от этих предприятий легендарная «табачка» является предприятием прибыльным, а не убыточным – причем прибыльной она была все годы своего существования, с XIX века. Именно поэтому, на мой взгляд, слухи с самого начала показались по меньшей мере странными. Но привычка принимать решения в закрытом режиме и ставить людей, как говорится, перед фактом, у белорусских властей неистребима, что, на наш взгляд, как раз появлению слухов и способствует.

Как человек, которому судьба ГТФ «Неман» далеко не безразлична (здесь работали долгие годы мой дед и моя мама), могу лишь выразить надежду, что судьба пинских спичек не постигнет гродненские сигареты и у их давних поклонников всегда найдется, чем прикурить.

**Александр ФЕДУТА.**

КАМПЕТЭНТНА

# Як зменяцца цэны на кватэры ў гэтым годзе?

*Кіраўнік упраўлення продажаў другаснага рынку жылля кампаніі "Твая сталіца" Святлана КУДЗЕЛКА распавяла "Народнай Волі" пра сённяшнія кошты на квадратныя метры.*

– У мінулым годзе цэны на кватэры на другасным рынку жылля практычна не змяняліся, – кажа эксперт. – Хаця быў невялікі дэфіцыт кватэр на рынку нерухомасці, крэдыты з'явіліся пад дастаткова добрыя працэнты, а таму напрыканцы года цэны крыху выраслі.

Але ў той жа час гэты факт можна звязаць і з сезоннасцю. Менавіта пасля летняга адпачынку людзі звычайна вырашаюць свае праблемы – і кватэрныя, і жыццёвыя.

Зрэшты, аналіз сітуацыі ў снежні-студзені кажа пра тое, што цэны на кватэры пайшлі ўніз і вяртаюцца на ранейшы ўзровень. Зараз няма вялікага попыту на кватэры, але гэта і зразумела – святы. Хаця людзі ўжо пачалі паціху прачынацца і выстаўляць нерухомасць на продаж.

**– Якія зараз сярэднія кошты на рынку жылля?**

– Сярэдні кошт квадратнага метра ў новабудоўлях – каля 1200 долараў, на другасным рынку – 1180. Пры гэтым даражэй за ўсё каштуюць аднапакаёўкі – 1300–1350 долараў за квадратны метр. А вось двухпакаёвыя і трохпакаёвыя кватэры – 1100–1150 "зялёных".

**– Напрыканцы мінулага года стаўка рэфінансавання знізілася да 9 працэнтаў, а значыць, будуць больш таннымі і крэдыты для насельніцтва, у тым ліку і на жыллё…**

– Гэта ўсё павінна сказацца ў гэтым годзе, бо напрыканцы мінулага пасля зніжэння стаўкі рэфінансавання некаторыя банкі прыпынілі актыўнае крэдытаванне жылля. Але ў той жа час не думаю, што пры сённяшняй эканамічнай сітуацыі народ пачне масава браць крэдыты, каб будаваць кватэры. Таму, думаю, нават зніжэнне працэнтных ставак моцна не зменіць сітуацыю на рынку жылля.

Прагназую, што ў гэтым годзе цэны на кватэры застануцца на ўзроўні мінулага года. Пакуль не бачу перадумоў, каб нешта змянілася.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

# Ягор Гусакоў сярод вучоных-талентаў

*Аб'яўлены лаўрэаты конкурсу «100 талентаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» за 2019 год. Імі сталі 10 маладых вучоных. У спісе і старэйшы сын старшыні Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Гусакова – Ягор Гусакоў.*

Ягор Гусакоў – загадчык сектара кааперацыі Інстытута сістэмных даследаванняў у АПК НАН Беларусі. Ён кандыдат эканамічных навук, дысертацыю абараніў у 2015 годзе. Адна з апошніх навуковых прац Ягора Гусакова ўтрымлівае даследаванне аб пераходзе нацыянальнага аграпрамысловага комплексу як мегакластара на шлях устойлівага інавацыйнага развіцця. Летась Ягор Гусакоў быў удзельнікам кітайска-беларускай канферэнцыі «Ініцыятыва» Пояс і шлях», якая прайшла ў "Вялікім камені" і на якой абмяркоўваліся прыярытэтныя напрамкі развіцця беларуска-кітайскага стратэгічнага партнёрства і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў кантэксце рэалізацыі ініцыятывы «Пояс і шлях».

Вучоных, якія становяцца лаўрэатамі конкурсу, уключаюць не толькі ў банк дадзеных «100 талентаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», а таксама і ў рэзерв кіруючых кадраў НАН Беларусі. Акрамя таго, яны атрымаюць аднаразовы грант на ўдзел у міжнародным навуковым мерапрыемстве на працягу аднаго каляндарнага года з моманту абвяшчэння вынікаў конкурсу, таксама ім будзе выплачвацца *штогадовая* прэмія ў памеры да 50 базавых велічынь – праўда, толькі ў перыяд уваходжання ў банк дадзеных і пры ўмове здавальняючай ацэнкі гадавой справаздачы аб навукова-даследчай, педагагічнай і інавацыйнай дзейнасці. 50 базавых велічынь – гэта ўсяго толькі 1275 рублёў. Хаця ў 2018 годзе, калі ўпершыню праводзіўся конкурс «100 талентаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», адзначалася, што адна з яго мэт – гэта прыцягненне і замацаванне таленавітай моладзі ў навуковай, навукова-тэхнічнай і інавацыйнай сферах.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

## Хто яшчэ ў спісе?

У «100 талентаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі» за 2019 год уключаны:

**Максім Усачонак** – намеснік загадчыка цэнтра «Фізіка плазмы» Інстытута фізікі імя Б.І.Сцяпанава, кандыдат фізіка-матэматычных навук;

**Аляксей Труханаў** – вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі фізікі магнітных плёнак НПЦ па матэрыялазнаўстве, кандыдат фізіка-матэматычных навук;

**Дзмітрый Якімчук** – старшы навуковы супрацоўнік аддзела крыягенных даследаванняў НПЦ па матэрыялазнаўстве, кандыдат фізіка-матэматычных навук;

**Яраслаў Дзічэнка** – старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі бялковай інжынерыі Інстытута біяарганічнай хіміі, кандыдат хімічных навук;

**Сяргей Лысенка** – дырэктар Інстытута прыродакарыстання НАН Беларусі, доктар фізіка-матэматычных навук;

**Марына Шабета** – вучоны сакратар НПЦ па біярэсурсах, кандыдат біялагічных навук;

**Таццяна Хрусталёва** – старшы навуковы супрацоўнік шматпрофільнай дыягнастычнай лабараторыі Інстытута фізіялогіі, кандыдат біялагічных навук;

**Аляксей Каплііеў** – старшы навуковы супрацоўнік аддзела навейшай гісторыі Беларусі Інстытута гісторыі, кандыдат гістарычных навук;

**Ірына Калтовіч** – старшы навуковы супрацоўнік аддзела тэхналогій мясных прадуктаў Інстытута мяса-малочнай прамысловасці НПЦ па харчаванні, кандыдат тэхнічных навук.




**Біёлаг Марына Шабета была прэзідэнцкім стыпендыятам, а зараз трапіла ў спіс «100 талентаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі».**

СТАЛА ВЯДОМА

# У Гродне спадзяюцца на прыезд Зяленскага

*Сёлета ў горадзе над Нёманам мае адбыцца трэці Форум рэгіёнаў Беларусі і Украіны.*

Падставай для прыезду ўкраінскага прэзідэнта ў Гродна можа стаць тое, што на другім Форуме рэгіёнаў Беларусі і Украіны, які праходзіў у кастрычніку 2019 года ў Жытоміры, Аляксандр Лукашэнка ўпершыню сустрэўся з Уладзімірам Зяленскім і запрасіў украінскага лідара наведаць Беларусь з афіцыйным візітам.

Дзяржаўныя СМІ паспяшаліся паведаміць, што ўжо створаны аргкамітэт правядзення Форуму і яго ўзначаліў намеснік прэм'ер-міністра Ігар Ляшэнка. Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў паабяцаў правесці мерапрыемства на самым высокім узроўні. Праўда, дата правядзення трэцяга Форуму рэгіёнаў пакуль не называецца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

МЫСЛИ ВСЛУХ

# Лицом к апостолам духовности!

В свое время английский поэт, педагог, критик Мэтью Арнолд (1822–1888 гг.) высказал эпохальную мысль: «Если я во что и верю, так только в культуру. Культура – это стремление к благозвучию и свету, к совершенству… Культура – это познание совершенства… Люди культуры – истинные апостолы равенства… Апостолы, ведущие людей праведными путями к великой духовности, нравственности».

Время не раз подтверждало эту мысль во многих странах. Как и то, что «истинные апостолы» заслуживают особой почести со стороны государства.

А какая же ситуация у нас, в Беларуси?

## Зарплаты средь родных осин

Согласно официальным данным, средняя зарплата работников культуры в 2018 году составила в эквиваленте около 230 долларов. Национальный статистический комитет сообщал, что работники творческой сферы в феврале 2019 года получили в среднем по 601,2 рубля, библиотекари, архивисты, музейщики – 558,9 рубля. В Германии средний уровень зарплаты таких работников составляет 3205 евро.

Ладно, госбюджет у нас скудный. Но почему он скудный для работников культуры? Заработная плата депутатов Палаты представителей предыдущего созыва составляла 3687,25 рубля (по информации экс-депутата Анны Канопацкой). В СМИ просочилась информация о зарплатах в ХК «Динамо-Минск»: как оказалось, хоккеисты вели роскошную жизнь за счет налогоплательщиков. В игровом сезоне 2017/2018 гг. хоккейный клуб потратил на зарплаты с учетом бонусов в пересчете на твердую валюту 11 миллионов 18 тысяч 363 доллара США. Хоккеисты в 2018 году получали 20–25 тысяч долларов в месяц, что в 87–108 раз больше, чем была средняя зарплата работников культуры.

Я не против развития и поддержки отечественного спорта. Но, **прежде чем развивать ноги, руки и другие части тела, следовало бы особое внимание обратить на развитие ума, сердца, души, чувств, что так важно и нужно сейчас.** Справедливости ради следует сказать, что зарплатный бюджет команды «Динамо-Минск» на 2018/2019 год уменьшился на 262 миллиона российских рублей. Но все равно это очень внушительная сумма. Работники культуры, образования и здравоохранения не были бы против получать хотя бы урезанную зарплату хоккеистов – они ее заслужили по праву.

## Деньги на культуру

Отрасль культуры финансируется по остаточному принципу. Ежегодно, по словам бывшего министра культуры Б.В.Светлова, объем бюджетных средств на содержание и развитие сферы культуры (без учета средств на капитальное строительство) составляет от 0,50 до 0,40 процента ВВП. В 2018 году было выделено 483,3 миллиона рублей, или 0,41 процента ВВП (в 2017 году эта сумма была еще меньше – 0,39 процента).

Согласно данным Национального статистического комитета Республики Беларусь, на образование в 2018 году выделено 3,9 процента от ВВП, на здравоохранение и социальные услуги – 3,4, творчество, спорт, развлечения и отдых – 1 процент. Финансирование культуры многоканальное, кроме государственного бюджета широко используются внебюджетные доходы от оказания учреждениями культуры платных услуг населению. До 2020 года была поставлена задача увеличить удельный вес таких доходов до 40 процентов от общего объема финансирования культуры (в предыдущей пятилетке, 2011–2015 гг., намечалось 20 процентов).

Увеличить финансирование отрасли можно за счет многих других источников: за счет более тесных, глубоких и широких связей Министерства культуры с другими министерствами, ведомствами, Федерацией профсоюзов РБ, где есть учреждения культуры, и др.; систематизации и активизации благотворительной, спонсорской и меценатской деятельности; продуманных налоговых льгот; привлечения средств среднего и крупного бизнеса; выпуска государственных лотерей, лото и пр.; создания различных фондов…

## Кто виноват и что делать?

Есть кардинальное решение этой проблемы – сделать учреждения образования, культуры, здравоохранения муниципальными или земскими, как это было в Царской России. Размер статьи не позволяет подробно изложить этот опыт. Смысл один: финансировать такие учреждения напрямую за счет местных бюджетов (но они, понятно, должны формироваться не так, как сегодня). Это позволит решить проблемы зарплат всех работников, укрепления материальной базы всех учреждений, оздоровления и отдыха их работников. И еще один мощный резерв для оказания помощи учреждениям культуры – расширение прав органов самоуправления, наполнение местных бюджетов за счет изменения налогового законодательства.

В нашем обществе, к сожалению, продолжаются процессы духовного и нравственного разложения. Принижена роль учителя – подвижника по определению, нет хозяина на земле, интеллигенции как таковой как бы нет, мы никогда о ней не говорим. Мы продолжаем публично в СМИ оскорблять и уничтожать творческих работников, особенно поэтов и писателей, имеющих свою точку зрения на происходящие в стране и мире события, часто несправедливо навешиваем на них унизительные ярлыки, называя их «пятой колонной», «отморозками», «шелудивой массой», чуть ли не врагами народа и др. Так высказываться непозволительно никому, даже руководителям государства, которые этим порой грешат. Ведь поэты – это гордость нашей страны, золотой фонд национальной культуры, поводыри общества, светочи знаний, источники духовных ценностей. Нам нужно повысить статус учителя, поэта, писателя, работника культуры, врача, творческой интеллигенции.

Власть имущих сама загнала часть этой интеллигенции в оппозицию, придав ей статус непримиримой. М.А.Булгаков (1881–1940) справедливо утверждал: «Писатель всегда будет в оппозиции к политике, пока сама политика будет в оппозиции к культуре».

Творческая интеллигенция всегда должна находиться в оппозиции к любой власти для уравновешивания сил разных ветвей власти. Во многих зарубежных странах это свято соблюдается.

Мы не сможем выработать национальную идею, создать солидарное общество до тех пор, пока будет противостояние в стране. Нужно находить компромиссы. Нам нужно интегрировать все силы страны, общества, чтобы единым фронтом целенаправленно двигаться вперед по пути прогресса, иначе можем потерять себя.

Уровень же воспитанности, культуры наших сограждан низок, желает много лучшего. Мы плодим потребителей массовой культуры, из поколения в поколение бросаем людей в стихию мещанского вкуса, растим эмоциональных глухарей. В настоящее время музыкальной наркоманией поражена подавляющая часть молодежи и как результат всего этого – нижайшая культура всего народа, процветание безнравственности, бездуховности, незнание своей культуры, традиций и быта, потеря чувства гордости за свою национальную принадлежность, доброты, милосердия, великодушия, понимания, солидарности…

## Я предлагаю…

На мой взгляд, мы обязаны вернуть нашему обществу духовность. Во всех регионах страны нужно возродить работу «Университетов культуры», создать культурно-образовательные центры, открыть академию детского творчества с целью раскрыть таланты и дать академическое образование одаренным детям.

Не менее значимым и эпохальным стало бы создание в Бресте в рамках «Нового Шелкового пути» «Славянского университета» за счет иностранных инвестиций – Китая, Индии, Ирана, Пакистана, Казахстана, Азербайджана, России, Украины и других стран. В нем хорошо было бы организовать подготовку дипломатов, юристов широкого профиля, экономистов, менеджеров и др.; предусмотреть изучение китайского, английского, арабского, хинди, фарси, русского и других языков. Уверен, что этот вуз стал бы научным, культурным центром не только для нашей страны, но и для всего постсоветского пространства и других стран мира, Меккой для интеллектуалов из стран Востока, Европы, а Беларусь стала бы еще более привлекательной для всего мира.

Народное художественное творчество – это мощный глубокий пласт нашей национальной культуры, основа культурной жизни белорусского народа, источник его духовных ценностей. Профессиональное искусство, лишившееся живительного источника – народного творчества, теряет свою привлекательность и силу.

Но за последние десятилетия идет целенаправленное уничтожение коллективов художественной самодеятельности. Например, в Бресте на пятидесятом году своего существования уничтожили флагман академического хорового пения Беларуси – Народную хоровую капеллу Дома культуры железнодорожников. Ранее разогнали Народный хор облсовпрофа, прекратили свое существование ансамбль песни и пляски «Брестчанка» электромеханического завода, а позже – мужской хор этого же предприятия… Ныне существующие хоровые коллективы в «урезанном» составе влачат жалкое существование, выживают кто как может.

Органы местной власти, профсоюзные и молодежные организации всех уровней, руководители предприятий, ведомств, учреждений полностью устранились от поддержки самодеятельного художественного творчества. И такая вакханалия происходит по всей стране. И никто за это не ответил и вряд ли ответит.

Мы все больше и больше скатываемся в бездонную пропасть субкультуры. Республиканские смотры художественной самодеятельности (об этом должен быть отдельный разговор) проводятся формально, отдаются на откуп областным органам культуры. В каждой области свое жюри. И каждое отбирает претендентов на республиканский смотр по своему вкусу. Нет никакого конкретного соревнования. Финансирование смотров мизерное. Кроме грамот и дипломов, больше никаких наград не предусматривается. Нет никакого праздника, радости, удовольствия, удовлетворения от таких смотров. У участников после них остается удручающее и гнетущее впечатление.

## Что же мы творим? Куда идем?

В 2010 году в Послании белорусскому народу и Национальному собранию А.Г.Лукашенко указывал, что институты власти призваны определить стратегию и приоритеты культурной политики: «создать условия для творческой реализации человека». Но пока ничего существенного не делается.

Много лет мы говорим о национальной идее. Рассуждений много, а конкретного определения так и нет. А ведь есть интересные наработки академика Е.М.Бобосова, доктора философии, доктора социологических наук Н.А.Барановского; доктора политических наук В.А.Мельника и других.

Я предлагаю свой вариант национальной идеи – **«Беларусь – для людей!»**, состоящую из четырех частей:

1) «Заре навстречу» (новая экономическая модель развития РБ);

2) «Возрождение» (разработка концепции развития культуры, программы возрождения языка, поддержки художественной самодеятельности, образования, здравоохранения; повышение статуса учителя, работника культуры, творческой интеллигенции; создание культурно-образовательных центров, университетов культуры и др.);

3) «Таланты – будущее страны» (Государственная комплексная целевая программа по поддержке одаренных детей и молодежи);

4) «Справедливое Отечество» (политическая реформа, реформа избирательной системы, укрепление органов самоуправления; независимость ветвей власти; разработка справедливых законов, социальная защита людей; наличие конструктивной оппозиции и др.).

Желательно еще раз обратиться к народу с предложением о внесении новых положений в содержание национальной идеи. А затем, изучив все имеющиеся варианты, составить проект Государственной национальной идеи и вынести на всенародный референдум, а в конце 2020 года утвердить ее в парламенте. И сразу же приступить к ее реализации.

Я верю, что совместными усилиями – государства, общества, всех партий и общественных движений, профсоюзов, всего народа – мы построим цветущий уголок планеты, в котором будут жить гордые, счастливые, высоконравственные люди.

**Иван ДРИГАЙЛОВСКИЙ,
ветеран-педагог, Брест.**

ДИСКУССИЯ

# Правде нужно смотреть в лицо…

В «Народной Воле» за 24 декабря прочитал интервью владельца «Дариды» Владимира Делендика. Насколько я понял, смысл его высказываний сводится к одному – он хочет убедить общественность в том, что нам, белорусам, очень повезло с руководством страны, прежде всего с президентом Александром Лукашенко: и промышленность модернизируется, и сельское хозяйство поднимается, словом, всё прекрасно. Но ведь это не стыкуется с реальностью. У нас практически финансово обескровлен весь реальный сектор экономики. Большинство предприятий, в том числе сельскохозяйственных, а также наши флагманы машиностроения – МАЗ, МТЗ, «Гомсельмаш» – в долгах как в шелках. Фактически уничтожено станкостроение, которым мы в свое время гордились, «легли» предприятия, выпускающие электронику, разорились фабрики легкой промышленности. Во многих районных центрах и небольших городах промышленных предприятий практически не осталось. Просроченные долги за прошедший год возросли почти на четверть.

Делендик, как я уловил, читая интервью, не против создания единого с Россией парламента, только предлагает установить квоты: 150 российских депутатов и 100 наших. Так же поступить и с правительством. Против единой валюты он не возражает при условии создания двух эмиссионных центров. Еще ранее известный бизнесмен был не против перехода на общий с Россией налоговый кодекс, – тогда мы меньше будем платить налогов. Просто, мол, примем российский налоговый кодекс и будем процветать. Только Россия почему-то не процветает, и уже несколько лет ее экономика стагнирует, а доходы населения падают.

Не смущает Владимира Делендика и то обстоятельство, что путинская Россия трансформируется в диктатуру фашистского типа, что последние годы она ведет войны в Украине и Сирии. Не заявляет он, что создание единого парламента и единого правительства приведет Беларусь к потере независимости, а ведь это очевидный факт. Более того, объединение с Россией – это использование наших парней в качестве пушечного мяса для удовлетворения амбиций небольшой группки людей в Кремле.

Что касается упрека в адрес Павла Северинца в том, что он не поддерживает президента в вопросах независимости страны, то, как я понимаю, нашему президенту такая поддержка не нужна. Иначе Павла и других белорусских патриотов не судили бы и в тюрьмы не сажали бы за проявление своей позиции по вопросу независимости Беларуси.

Владимир Викторович утверждает, что у Павла Северинца как у будущего кандидата в президенты на предстоящих выборах нет своей программы развития страны (как и у А.Канопацкой), а следовательно, и у всей оппозиции такой программы нет. Он ошибается.

Вся надежда, по утверждению Владимира Делендика, на президента Лукашенко.

Я вспоминаю, как плакала моя мать, когда умер Сталин. Но вот как-то живем до сих пор. И живем, несмотря на все трудности и нерешенные проблемы, лучше, чем тогда. Умер Мао Цзедун, а Китай, который при нем был нищий, стал процветать. Не стало Фиделя Кастро – Куба живет…

Слов нет, Делендик волен смотреть на свет, как говорится, через свои очки. Важно только, чтобы их стекла не искажали истинное положение дел. Молись, на кого хочешь, но не вводи людей в заблуждение, не выдавай черное за белое.

**Василий ШЛЫНДИКОВ,**
**экс-депутат Верховного Совета 13-го созыва, бывший президент акционерного общества «Амкодор».**

ЖИТЕЙСКИЙ ВОПРОС

# Какой процент пенсии удерживают у работающего пенсионера?

*Скажите, пожалуйста, насколько верна информация о том, что у работающих пенсионеров по-разному удерживают часть пенсии: у кого-то забирают 30 процентов, а кому-то пенсию выплачивают целиком?*

**И.И.Сенькевич.**

Да, это так. Специалисты не раз поясняли, что порядок начисления пенсии работающим пенсионерам установлен национальным законодательством.

В период работы пенсия может выплачиваться в полном размере, с частичным ее ограничением либо не выплачиваться вообще. В полном размере выплачивается пенсия пенсионерам, работающим непосредственно в сельскохозяйственном производстве. Право на выплату пенсии в полном размере имеют также те пенсионеры, у которых индивидуальный коэффициент заработка не превышает 1,3. Что касается пенсионеров, у которых индивидуальный коэффициент заработка выше 1,3, то та часть пенсии, которая исчислена с учетом коэффициента свыше 1,3, в период работы либо предпринимательской деятельности не выплачивается.

Данный порядок выплаты пенсии является единым для всех получателей пенсий независимо от уровня получаемой работающим пенсионером заработной платы или дохода, а также независимо от формы устройства на работу (по трудовому договору, договору подряда, гражданско-правовому договору). Поэтому, если пенсионер с индивидуальным коэффициентом заработка свыше 1,3 изъявил желание устроиться на работу, лучше заранее проконсультироваться о размере выплачиваемой ему в период работы пенсии.

Кстати, от пенсии в период работы можно отказаться добровольно, и это позволит в дальнейшем получать большую пенсию. Размер прибавки к назначенной пенсии будет зависеть от продолжительности периода работы без получения пенсии. Так, отказавшись от пенсии в период работы, за первый год такой работы пенсия увеличится на 6% заработка, из которого исчисляется пенсия, за второй – на 8%, за третий – на 10% и т.д. И, например, отработав 5 лет без получения пенсии, можно увеличить ее размер более чем в 1,7 раза! Правда, белорусов, оформивших такую отложенную пенсию, немного. В Министерстве труда и соцзащиты сегодня затрудняются назвать конкретную цифру, но последние официальные данные ведомства свидетельствовали о том, что таких пенсионеров на всю страну около 6 тысяч человек, хотя, заметьте, продолжают работать на пенсии более 600 тысяч белорусов.

К СЛОВУ

## Тех, кто продолжает трудиться, становится меньше

В октябре прошлого года начальник управления политики занятости Минтруда **Олег Токун** заявил, что в целом по стране работают около 600 тысяч пенсионеров. На 1 января 2019 года эта цифра составляла 638 тысяч, а на 1 января 2016 года – 651 тысячу. Специалисты это объясняют переходным периодом: в Беларуси постепенно повышается пенсионный возраст, и сегодня те, кто работает после 55 и 60 лет, могли бы относиться к работающим пенсионерам, но из-за повышения пенсионного возраста на пенсию не выходят. С 1 января 2020-го пенсионный возраст в Беларуси для мужчин составил 62 года, для женщин – 57 лет. К слову, среди работающих пенсионеров подавляющее большинство – это люди возрастной группы от 55 до 65 лет – их 90 процентов в структуре работающих белорусских пенсионеров.

Что еще обращает на себя внимание? Сегодня в Минске даже не каждый третий пенсионер продолжает трудиться, хотя, как известно, найти в столице работу проще, чем на периферии. Так, на 1 ноября 2019 года на учете в Минске состояло 479.269 пенсионеров, из них продолжали работать – 171.514 человек (то есть около 36%). В районных центрах на пенсии продолжают работать гораздо больше белорусов. Возьмем, например, Щучинский район Гродненской области. Там на 1 декабря 2019 года на учете в органах соцзащиты состояло 13.975 получателей пенсии, из них продолжало работать 2235 человек – каждый шестой пенсионер (16%). Возможно, такой дисбаланс в статистике связан с размером пенсии. В столице он выше. В Минске средний размер трудовой песни по возрасту на 1 ноября 2019 года составил 466,52 рубля, а в Щучинском районе – только 413,9 рубля. К слову, в целом по стране средняя пенсия по возрасту в ноябре 2019 года была 446,8 рубля. Хотя, безусловно, у столичного пенсионера и трат побольше – и квартплата выше, и проезд в общественном транспорте дороже. Но в любом случае такая тенденция наблюдается…

ШТРИХ

## Не по душе пассивный образ жизни

Осенью прошлого года специалисты исследовательского центра ИПМ и BEROC при поддержке Евросоюза провели в нашей стране исследование: оценка населением пенсионной системы. В ходе опроса выяснилось, что большинство белорусов – участников опроса работу на пенсии воспринимают как вынужденную меру ввиду малого размера государственного пособия – основного источника дохода на пенсии.

Среди основных причин, которые вынуждают пенсионеров работать, белорусы назвали следующие:

– недостаточный размер пенсии,
– нет других занятий,
– теряется смысл жизни,
– страх заболеть из-за отсутствия работы,
– привычка работать,
– возможность помогать детям,
– востребованный специалист/нет замены.

*«Недостаточный размер пенсии, ограниченные возможности для развития, хобби и путешествий на пенсии приводят к потере смысла существования, боязни заболеть из-за пассивного образа жизни. Поэтому люди стараются держаться за работу, и с годами вырабатывается привычка работать»*, – сделали вывод авторы исследования.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПЕРЫПЕТЫІ ЛЁСУ

# Алена ДУБОВІК: «Супрацоўніцы беглі насустрач з кветкамі, і слёзы на вачах…»

*У 2012 годзе 45-гадовая **Алена Дубовік** узяла ў арэнду будынак старой вясковай школы ў вёсцы Вайганы, сваімі сіламі і за сродкі сваёй сям'і зрабіла там рамонт, набрала штат супрацоўнікаў, і ў 2013 годзе ў Беларусі з'явіўся першы прыватны пансіянат для адзінокіх і старых людзей «Сямейны прычал».*

*У 2017-м суд прызнаў Алену Дубовік вінаватай у махлярстве ў асабліва буйным памеры і асудзіў на 4 гады калоніі. Летась яна выйшла на волю па амністыі і ўжо на другі дзень пасля вызвалення была са сваім калектывам.*



– *Прыехала ў інтэрнат з малодшай дачкой і ўнучкай*, – расказвае Алена Валянцінаўна. – *Тэрыторыя ў нас немалая, ад варот да будынка некалькі дзясяткаў метраў. Толькі зайшлі ў вароты – а нам насустрач ужо бягуць мае супрацоўніцы з кветкамі, і слёзы на вачах! Плакалі яны, не стрымалася і я… У кабінеце стаялі ружы. Дзяўчаты, калі даведаліся, што я вяртаюся, за ноч там шпалеры пераклеілі... Адзін з пастаяльцаў, Валерый Іванавіч Крывашэеў, калі мяне ўбачыў, схапіў за руку, моцна яе сціснуў і запытаўся: «Адпусцілі? Больш не забяруць?!» – і заплакаў ад шчасця…*

У інтэрнаце расказваюць, што першыя два тыдні пасля таго, як Алена Дубовік выйшла на працу, дзверы яе кабінета практычна не зачыняліся. Ішлі сябры, знаёмыя, мясцовыя жыхары з вёскі Вайганы – усе прапаноўвалі дапамогу, нават пуцёўку ў санаторый, каб яна папраўіла здароўе, бо ў калоніі істотна схуднела.

Пра судовую справу Алена Валянцінаўна ўзгадваць не хоча, тым больш што, не выключана, будзе яшчэ змагацца за сваё добрае імя. Суд у лістападзе 2017 года прызнаў, што яна як дырэктар інтэрната незаконна скарысталася пасля смерці сваёй падапечнай даверанасцю на права распараджэння маёмасцю, якую тая выпісала ёй пры жыцці, і зняла грошы з рахунку памерлай пенсіянеркі. Дубовік жа падчас судовага пасяджэння сцвярджала, што махлярства не было, што грошы яна выдаткавала на патрэбы пансіяната. Дубовік вярнула сваякам памерлай пастаяліцы ўсё да капейкі, нават маральную шкоду кампенсавала, але суд прызнаў яе вінаватай і асудзіў на 4 гады з канфіскацыяй маёмасці... Маёмасць, праўда, не канфіскавалі. «*Ніякіх багаццяў я не нажыла,* – уздыхае Алена Валянцінаўна. – *Кватэру ў Маладзечне будавалі як шматдзетная сям'я, я брала крэдыт пад адзін працэнт на 40 гадоў і да гэтага часу яго выплачваю…*»

Тое, што «Сямейны прычал» змог пратрымацца без свайго дырэктара амаль два гады, можна сказаць, таксама заслуга Алены Валянцінаўны, бо гэта яна змагла стварыць калектыў, у якім, як кажуць, адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. Інтэрнат выстаяў за кошт таго, што праца была добра наладжана і дакладна выбудавана, кожны займаўся сваёй справай. Крымінальны пераслед дырэктара ні для кога не стаў прычынай звольніцца. Ужо з калоніі Дубовік праз адваката прызначыла выконваць абавязкі дырэктара бухгалтара Наталлю Бубен. І Наталля Іванаўна, як кажуць, не падвяла.

Але ж і Дубовік, як зараз сама заўважае з усмешкай, працавала дыстанцыйна. «*Не было ні дня, каб я ў калоніі не атрымлівала лісты,* – кажа яна. – *І з працы, і ад арганізацый, з якімі інтэрнат супрацоўнічае. Вядома ж, родныя пісалі. У мяне не было такога, каб на спатканне хтосьці не прыехаў, а з працы дзяўчаты заўсёды перадавалі печыва, іншыя прысмакі. Мяне падтрымлівалі мае калегі, сям'я, браты, родныя. Мяне гэта трымала…*»

Дубовік пасля вызвалення адразу ўзялася за справы, праўда, папярэдне ўзгадніўшы ў Валожынскім райвыканкаме аднаўленне на пасадзе дырэктара «Сямейнага прычала». Яна хоць і ўласніца інтэрната, але павінна была прад'явіць дакументы, што рашэннем суда не абмежавана ніякім тэрмінам у праве займаць кіруючыя пасады.

«Сямейны прычал» разлічаны на 45 чалавек, сёння ў пансіянаце пражывае толькі 20 пенсіянераў, сярод якіх ёсць і «сацыяльнікі» – тыя, у каго няма блізкіх сваякоў або ад каго адмовіліся апекуны, а пенсіі, каб аплаціць паслугі, не хапае. Яны жывуць за кошт пансіяната (ну не выганіш жа старога і нямоглага чалавека на вуліцу). Інтэрнат трапіў у складаныя ўмовы – даходаў, можна сказаць, няма, а функцыянаваць павінны ўсе службы.

Алена Валянцінаўна адразу «падключыла» ўсе свае сувязі. І ніхто не адмовіўся дапамагчы, наадварот, спонсары нават самі ініцыявалі некаторыя праекты. Дубовік выдыхнула: непрыемны інцыдэнт на яе аўтарытэце не адбіўся. Хаця, напэўна, яна ўсведамляла гэта і ў калоніі, таму што лісты ёй ішлі нават ад дабрачынцаў з Галандыі. Але пераканацца яшчэ раз у тым, што ў цябе і тваю справу вераць, – гэта і прыемна, і дадае моцы.

– *Перш за ўсё мы з сябрамі адрамантавалі дах, таму што падцякаў, пераклеілі шпалеры на другім паверху. Каналізацыю прачысцілі, у двары шмат чаго падрабілі,* – расказвае Алена Валянцінаўна. – *Дырэктар фонду Еўфрасінні Полацкай Сяргей Генадзевіч Барташэвіч, з якім інтэрнат сябруе і супрацоўнічае з 2015 года, адразу ж пералічыў 2 тысячы рублёў на дровы – для нас гэта істотна! Навагоднюю ёлку з дапамогай фонду арганізавалі. Запрасілі ў інтэрнат да нашых пастаяльцаў дзяцей з шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў з бацькамі – усяго было 80 чалавек. Арганізавалі для іх канцэрт – пастаноўку пра Божае нараджэнне падрыхтавалі маленькія прыхаджане евангельскіх цэркваў з Валожына і Маладзечна, а падарункі ад Дзеда Мароза перадаў фонд Еўфрасінні Полацкай. 16 студзеня чакаем «Прыорбанк» з дабрачынным канцэртам! Яны заўсёды нам дапамагалі: і кветкі везлі, і аргтэхніку, і іншыя рэчы, неабходныя ў гаспадарцы. Я і зараз спадзяюся на іх дапамогу…*

Алена Валянцінаўна пералічвае яшчэ з тузін спраў, якія ўжо паспела здзейсніць. Не без гонару заўважае, што ў лістападзе галандская гуманітарная арганізацыя Stichting charite перадала інтэрнату гуманітарны груз на суму 21 тысяча еўра. «*Нам нават столькі і не трэба, таму вырашылі падзяліцца з раённай бальніцай шматфункцыянальнымі ложкамі і туалетнымі крэсламі, з малазабяспечанымі, якія стаяць на ўліку ў сельсавеце, – адзеннем, цацкамі... Усе нюансы ўжо ўзгоднены з выканкамам*», – кажа яна.

Наша размова заканчваецца яшчэ адным прызнаннем: у Алены Валянцінаўны Дубовік саспеў чарговы сацыяльны праект, але гаварыць пра яго яна пакуль устрымліваецца. Каб не сурочыць…

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**На фота: Падчас навагодняга канцэрта ў інтэрнаце…**

ІХ ПУЦЯВІНЫ

## «Запрасілі з каманды Себасцьяна Курца...»

*Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Ганна Канапацкая працаўладкавалася.*



– Буду працаваць у міжнароднай інвестыцыйна-тэхналагічнай кампаніі «POLYTECHNIK Luft und Feuerungstechnik GmbH» з галаўным офісам у Аўстрыі, а прапанову атрымала ад каманды Себасцьяна Курца, людзей, зацікаўленых у развіцці беларуска-аўстрыйскіх адносін, – расказала Канапацкая «Народнай Волі». – Я буду прадстаўніком па краінах Усходняй Еўропы.

– **Будзеце працаваць дыстанцыйна ці пераедзеце ў Аўстрыю?**

– Дакладна буду працаваць на некалькі краін, і падобна на тое, што часта давядзецца быць у раз'ездах. З Мінска, вядома ж, нікуды не пераеду. Я не пакідаю палітыку, таму што трэба рэалізаваць праекты па рэфармаванні эканомікі і прасоўванні законапраектаў, якія, як я лічу, дапамогуць нашай краіне. Я ўдзячна прэм'ер-міністру, міністэрствам і ведамствам, якія застаюцца са мной на сувязі і разумеюць неабходнасць рэформ у Беларусі.

## На былое месца працы

*Адразу пасля навагодніх святаў выйшла на працу і Алена Анісім.*



«*Вярнулася на працу ў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі,* – напісала былы дэпутат. – *Калегі зберaглі стол, крэсла, а вось камп'ютар мяне не дачакаўся. Давядзецца нешта пакумекаць, пакуль добры з'явіцца. У ІТ-краіне без камп'ютара ні кроку не зробіш, тым больш калі задумана вялікая справа – новы тлумачальны слоўнік*».

**Іван ШЫРОКІ.**

НЕСТАНДАРТ

# Тое, што ў Беларусі лічаць спецыяй, у Кітаі – лякарства

*З лютага 2018 года ў Гродне існуе цэнтр традыцыйнай кітайскай медыцыны. У ім працуюць два ўрачы з правінцыі Ганьсу. За гэты час да іх звярнуліся больш за шэсць тысяч чалавек. Карэспандэнт «Народнай Волі» таксама наведаў медыцынскі цэнтр і пацікавіўся, як і ад чаго лечаць кітайскія ўрачы.*



## «Мы практыкуем у вас толькі два метады»

У маі 2015 года паміж Гродна і горадам Лунань кітайскай правінцыі Ганьсу была падпісана дамова аб пабрацімскіх сувязях. Бакі пагадзіліся на падставе раўнапраўя і ўзаемнай выгады сумеснымі намаганнямі садзейнічаць сяброўскім кантактам і гандлёва-эканамічным сувязям паміж жыхарамі гарадоў, актыўна здзяйсняць абмен і супрацоўніцтва ў галіне эканомікі і гандлю, навукі і тэхнікі, культуры і адукацыі, спорту, аховы здароўя і ў іншых сферах, а таксама абменьвацца спецыялістамі.

Паводле слоў кіраўніка медыцынскага цэнтра доктара **Ван Ганьі** *(на фота)*, у выніку гэтых пагадненняў і стала магчымым адкрыццё кітайскай медыцынскай установы ў Гродне.

Спосабаў лячэння ў традыцыйнай кітайскай медыцыне налічваецца мноства, але пакуль у цэнтры практыкуюцца пераважна толькі два – іголкарэфлексатэрапія (іголкаўколванне) і масаж.

– Мы не можам пакуль прывозіць у Беларусь свае лекі, зробленыя на травах альбо на аснове выцяжак жывёльнага паходжання, паколькі яны не маюць у Беларусі адпаведных сертыфікатаў, – тлумачыць доктар Ван Ганьі. – Гэтыя пытанні павінны быць найперш вырашаны на заканадаўчым узроўні. Усё ж медыцына ў нас і ў вас вельмі моцна адрозніваецца. А вось іголкатэрапія і масаж у Беларусі таксама дазволены пры лячэнні людзей і прымяняюцца ва ўстановах аховы здароўя.

Каб патлумачыць розныя падыходы да лекавых сродкаў кітайскіх і беларускіх медыкаў, доктар Ван Ганьі прыводзіць прыклад. У Беларусі карыцу выкарыстоўваюць як звычайную спецыю для прыгатавання страў, а ў Кітаі карыца – адзін са складнікаў лякарств, якія выкарыстоўваюць пры лячэнні нырак і іншых унутраных органаў.

## «Нашы даходы не пакрываюць расходы...»

Зараз у медыцынскім цэнтры, паводле слоў дырэктара, акрамя яго працуе яшчэ адзін кітайскі ўрач, ёсць перакладчыкі, а таксама персанал, які сочыць за парадкам у офісе, але гэта ўжо грамадзяне Беларусі.

– Часцей за ўсё да нас звяртаюцца пацыенты з болем у назе альбо паясніцы. Заходняя медыцына звычайна ў такіх выпадках выкарыстоўвае абязбольваючыя сродкі, прапануюцца аперацыі, а мы рэкамендуем іголкаўколванне, – распавядае доктар. – Розніца заўважная, і пацыенты адчуваюць перавагу пры лячэнні такіх захворванняў метадамі традыцыйнай кітайскай медыцыны. Да таго ж іголкаўколванне не мае ніякіх пабочных з'яў.

Сярод беларускіх пацыентаў нямала тых, каго мучыць бяссонніца, дакучае хранічны прастатыт, хто не можа зацяжарацьь, цярпіць ад болю ў страўніку, у каго галаўныя болі, інсульт, астэахандроз, экзэма, рэзкая страта слыху і іншыя захворванні.

Кошт аднаго сеанса ў цэнтры – 15 рублёў. Доктар дадае, што гэтыя сродкі ім патрэбны на аплату арэнды памяшкання і іншыя расходы.

– У нас даволі высокія выдаткі на арэнду памяшкання, камунальныя плацяжы... Калі б ваша дзяржава брала гэтыя расходы на сябе, то мы пацыентаў прымалі б бясплатна, – падкрэслівае доктар Ван Ганьі. – Мы ў прынцыпе прыехалі сюды не рабіць бізнес, а падзяліцца з нашымі калегамі вопытам, дапамагчы хворым. Дарэчы, нашы даходы не пакрываюць расходы, і ўтрыманне цэнтра фінансуецца з офіса, які знаходзіцца ў Кітаі.

## А як у Кітаі?

У Кітаі, як і ў Беларусі, хворы ў шпіталі праходзіць абследаванне, бяруцца аналізы, ставіцца дыягназ і пасля гэтага прызначаецца лячэнне. Медыцына ў іх, у адрозненне ад беларускай, страхавая, але за аперацыі таксама даводзіцца плаціць.

Доктар у Кітаі зарабляе ў залежнасці ад спецыялізацыі. Плата залежыць яшчэ ад правінцыі, дзе працуе доктар. Напрыклад, у правінцыі Ганьсу, дзе ўзровень жыцця трохі ніжэй, чым сярэдні па краіне, тэрапеўт, малады спецыяліст, у гарадской паліклініцы зарабляе ад адной да дзвюх тысяч, калі перавесці ў беларускія рублі. Доктар з вопытам атрымлівае прыкладна да трох тысяч.

Доктар Ван Ганьі высока ацэньвае работу нашых, тутэйшых, спецыялістаў, кажа, што аперацыі на ўнутраных органах чалавека праводзяцца на вельмі высокім тэхналагічным узроўні. Аднак ён лічыць, што кітайская традыцыйная медыцына больш дакладна тлумачыць стан здароўя пацыента.

Каб стаць доктарам у Кітаі, патрэбна, як і ў Беларусі, атрымаць вышэйшую адукацыю – адвучыцца пяць гадоў. Пасля гэтага яшчэ адзін год практыкі пры навуковым кіраўніку – і толькі пасля гэтага пачынаецца самастойная праца.

## У Беларусі шмат што падабаецца

Кітайскія ўрачы жывуць у Гродне ў будынку, дзе знаходзіцца іх медыцынскі цэнтр. Доктар Ван Ганьі кажа, што яму падабаюцца ў Беларусі людзі і прырода. Праўда, дадае, што ўсё ж сумуе па радзіме, у яго там сям'я, маленькае дзіця.

Харчуюцца кітайскія медыкі па сваёй рэцэптуры, самі гатуюць стравы, хаця вельмі многіх звыклых ім прадуктаў у Беларусі папросту няма.

– Кітайцы вельмі любяць паесці і надаюць гэтаму вялікае значэнне, – заўважае доктар. – Калі тут, напрыклад, людзі цікавяцца адзін у аднаго, як справы, то ў Кітаі могуць звярнуцца з пытаннем «Як ты паеў?».

Замежныя спецыялісты імкнуцца больш даведацца пра беларускія традыцыі.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

СЛЫШАЛИ?

# Безвизовые страны для белорусов 2020

| Страна | Срок пребывания |
|---|---|
| Азербайджан | |
| Албания | до 90 дней в частных и туристических целях |
| Антигуа и Барбуда | до 30 дней |
| Аргентина | до 90 дней |
| Армения | до 28 дней |
| Барбадос | |
| Бразилия | до 90 дней |
| Вануату | до 30 дней |
| Венесуэла | до 90 дней |
| Вьетнам | до 15 дней |
| Гаити | до 90 дней |
| Гамбия | до 90 дней |
| Гонконг, специальный административный район КНР | до 14 дней |
| Грузия | |
| Доминика | до 21 дня в целях туризма |
| Израиль | до 90 дней в каждый период из 180 дней |
| Индонезия (в т.ч. Бали) | до 30 дней в целях туризма |
| Казахстан | |
| Катар | до 30 дней |
| Китай | До 30 дней, суммарно – не более 90 дней в календарном году |
| Куба | до 30 дней |
| Кыргызстан | |
| Малайзия | до 30 дней |
| Макао, специальный административный район КНР | до 30 дней |
| Молдова | |
| Северная Македония | |
| Мексика | до 180 дней |
| Монголия | до 90 дней |
| Микронезия (Федеративные Штаты) | до 30 дней |
| Намибия | до 90 дней |
| Никарагуа | до 90 дней |
| Панама | до 180 дней |
| Перу | до 183 дней с целью туризма |
| Россия | |
| Сальвадор | |
| Самоа | до 60 дней |
| Сейшельские острова | до 90 дней |
| Сент-Винсент и Гренадины | до 30 дней |
| Сент-Китс и Невис | до 30 дней |
| Сербия | до 30 дней |
| Таджикистан | |
| Тунис | до 90 дней |
| Турция | до 30 дней |
| Узбекистан | |
| Украина | |
| Черногория | до 30 дней |
| Эквадор | до 30 дней |

*(По информации МИД РБ.)*

ТРАДЫЦЫІ

# Калі калядуюць каралі....

*Чацвёрты год запар жыхары вёскі Ваверка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці ладзяць у сваім аграгарадку старадаўні абрад калядавання «Тры каралі», які існаваў у гэтых мясцінах больш за паўстагоддзя таму.*

Абрад старажытны, але, паводле ўспамінаў людзей сталага веку, ладзіўся не ва ўсіх вёсках цяперашняга сельсавета. Людзі памятаюць, што звычайна калядаваць выходзілі дзеці на Божае Нараджэнне. Аднак абрад існаваў і на Тры каралі, і калядаваць выходзілі дарослыя людзі. Мясцовы ксёндз патлумачыў, што істотнай розніцы паміж калядаваннем на Божае Нараджэнне і на Тры каралі няма, вось толькі дзеючыя асобы іншыя.

Сёлета абрад калядавання на Тры каралі ўпершыню выйшаў за межы Ваверкі і крочыў па суседніх вёсках, што вельмі зацікавіла мясцовых жыхароў. Спецыялісты з Лідскага цэнтра культуры рыхтуюць дакументы для ўключэння ўнікальнага абраду ў пералік «жывога здабытку Беларусі» – у спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

**На фота: калядоўшчыкі – тры каралі.**



ДУХОЎНЫ СКАРБ

# І ў турме ёсць іканапісцы

Вязень з папраўчай калоніі №8 горада Оршы перамог у конкурсе праваслаўнага іканапісу «Канон». Гэты конкурс праводзіцца адмыслова для асоб, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення і абмежавання волі. Выніковае пасяджэнне журы прайшло ў Маскве, БПЦ прадстаўляў старшыня Сінадальнага аддзела па турэмным служэнні святар Георгій Лапухоў. Журы вывучыла творы іканапісу мастакоў-вязняў з Беларусі, Казахстана і Расіі. У фінал выйшлі каля 100 іканапісных прац, напісаных на дошках і палатне алеем і акварэллю, выразаныя на дрэве, вышытыя перламі і г.д. Прызавое месца першай ступені і званне лаўрэата атрымаў асуджаны з Оршы (прозвішча не паведамляецца).

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Энцыклапедыя Лагойшчыны

## з-пад пяра Галіны Каржанеўскай




Сучасны выраз «нон фікшн» азначае «без вымыслу». Так зараз называюць дакументалістыку. Можна быць упэўненымі, што Галіна Каржанеўская ў сваёй новай кнізе «Лагойшчына. Голас памяці» (Мінск, 2019) захавала чысціню жанру. У аснову пакладзены ўспаміны старэйшых жыхароў раёна пра даваенны і пасляваенны час, жыццё іх бацькоў і дзядоў.

Значная частка выдання прысвечана перыяду нямецкай акупацыі – дзейнасці партызанскіх атрадаў і разведгруп, іх узаемадзеянню з мясцовым насельніцтвам. Сабраны звесткі пра першыя дні навалы, забеспячэнне партызан, пра цяжкасці іх побыту ў лесе, пра трагедыю пачатку 1944-га на возеры Палік. Асобныя раздзелы прысвечаны Герою Савецкага Саюза І.М.Цімчуку, камандзіру атрада «Дзімы», арганізатару замаху на Кубэ Давіду Кеймаху, мясцоваму падпольшчыку-сувязному У.Сароку. Выкарыстана мемуарная літаратура: вядомага дзеяча партызанскага руху Р.Мачульскага, камісара І.Дзядзюлі, удзельнікаў супраціву М.Андрэева, Ю.Волкава і многіх іншых.

На старонках кнігі чытачы знойдуць шмат краязнаўчай інфармацыі пра вёску Янушкавічы, дзе аўтар заканчвала школу, і адпаведны сельсавет. Рэльеф мясцовасці, асаблівасці навакольных паселішчаў, паходжанне тапонімаў, у тым ліку «гор» (так у Лагойскім раёне называюць марэнныя, створаныя ледавіком пагоркі), мясцовыя паданні – пра ўсё гэта распавядаецца сцісла, але з цікавымі дэталямі.

З цеплынёй і ўдзячнасцю піша аўтар пра настаўнікаў Янушкаўскай сярэдняй школы, іх лёсы і характары. Запісаны расповеды ад В.К.Шымчонак, Л.В.Курто, І.І.Мардас, ад сваякоў дырэктара – заслужанага настаўніка БССР У.А.Рыбчыка, сястры П.Я.Жардзецкага, дзяцей І.Н.Жардзецкага і многіх іншых.



Не абмінула аўтарка і суседнія паселішчы: Калачы, Бабры і Гайна. Не абыдзены ўвагай купалаўскія мясціны і філіял музея славутага Песняра ў Акопах (Харужанцы). Знайшлося месца для згадак пра родную вёску народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча і калыскі паэта і мастака Сяргея Давідовіча – Карпілаўкі. З гэтымі мясцінамі звязана жыццё вядомага беларускага цымбаліста Алеся Лявончыка, у якога музычна адоранымі аказаліся і бацькі, і сёстры, і сыны.

«Вайна і мір ва ўспамінах старэйшых» – такі падзагаловак мае кніга Галіны Каржанеўскай. Гэта яшчэ раз пераконвае, што вусная гісторыя мае такое ж права на існаванне, як і зафіксаваная ў пісьмовых крыніцах.

**Кацярына ВЯРЖБІЦКАЯ.**

АД РЭДАКЦЫІ

*Карыстаючыся нагодай, прапануем чытачам «Народнай Волі» нізку новых вершаў **Галіны КАРЖАНЕЎСКАЙ.***

### Дрэвы горада

У дрэў, як у пасваранай радні,
З зямною сілай сувязь перарвана.
Залітыя асфальтам карані
Ледзь дыхаюць,
лісты ляцяць зарана.

Закладнікі кварталаў гарадскіх,
Яны нам і дакор, і суцяшэнне.
Мы шмат калі не заўважаем іх,
Бо самі вельмі часта
без карэння.

### Трымаюся

«Трымайцеся!» – мне пажадаў знаёмы.
Трымаюся, як за галіну – плод,
Як старыца,
як пахілёны плот,
Як мова (беларуская, вядома).

Трымацца – не трываць,
а быць пры сіле,
Пераадольваць,
верыць,
дараваць.
На роднай апынуўшыся магіле,
Не дрэннае –
святое ўспамінаць.

### Дома

Добра, вядома,
Дома:
Наводзіць парадкі,
Пячы аладкі.
Весці сабаку на вулку –
На сонечную прагулку.
Хатнія кветкі паліць
(Вельмі ўжо хочуць піць),
Чытаць газету ці кніжку,
Трымаць у руцэ «мышку»...

Добра ў кокане,
у шкарлупіне,
Пакуль цябе ў вір не кіне.

### Перайманне Купалы

Я мужык-беларус,
Пан касы і сахі.
Ўсё матаю на вус,
А да праўды – глухі.

Мне б зацішны куток,
Мне б скарынку з вадой,
Дык я жыў бы, браток,
У краіне любой.

Многа зведаў прынук,
Прыцярпеўся да бед.
Хай бы дзеці і ўнук
Перайначылі свет.

* * *

На нас нібы паставілі кляймо,
Мы ім «калона пятая», чужая.
І нейкае прыкормленае чмо
Пагардліва,
звысоку паглядае.

Яно сярод абраных, бліз руля,
Ды не заслуг, ні талентаў не густа.
Распластаны ля трона караля
І прадалі сумленне за «капусту».

### Фальсіфікатары

Ніхто з іх не стане
Пухнатым і белым:
Запэцканы ўсе
І канверту не рады.
Масавыя прыпіскі –
Як масавыя расстрэлы
Нашай годнасці,
Нашай праўды.

* * *

Анісь, Горусь, Паланея...
Як узор, імёны ткуцца.
Ад здагадкі халадзею:
Вам ніколі не вярнуцца.

Тут самотны дух лунае,
Бо зачэзнуў дух святы.
І нашто вам вёска тая,
Дзе засмечаны клады?

Адно наступіш – купіна трасецца...
Далёка не прасунешся, калі
Не будзеш адчуваць нагой зямлі.
Таму яна і матухнай завецца.

### Як лепей?

Як лепей:
Каб зло было добра відно,
Нахабна
У свет расчыніла акно,
Галёкала матам –
Або каб трывала яно да пары,
Расло,
Набракала ў глыбокай нары,
Схаванае спратам?

### Дакор

Стань маёй цвярдыняй,
стань маім аплотам,
Стань надзейным самым
бункерам ці дотам.
Адсапуся, гляну
ў шчыліну паціху:
Мо напасць якая,
мо якое ліха?
Будзе там спакойна,
хораша і міла.
Папытае Божа:
– А дзе ж твая сіла?
Дзе твая рашучасць,
воля да змагання?
Крыжык ёсць на шыі,
мужнасці – ні звання.

США–ИРАН

# Третья мировая опять откладывается

Ближневосточный кризис, усугубленный гибелью иранского генерала Касема Сулеймани, кажется, на этот раз тоже не перерастет в полноценную мировую войну. Торжественно простившись с убитым командующим силами специального назначения, Иран пообещал отомстить за его смерть и отомстил – достаточно странно и, можно сказать, аккуратно.

Напомним, что генерал Сулеймани был убит прицельным выстрелом американской ракеты в тот момент, когда прибыл в Ирак. Высшее руководство США в лице президента Дональда Трампа взяло на себя ответственность за эту смерть. Мало того, в прессе появилась информация о том, что президент Трамп не хотел этой смерти, что его долго уговаривали принять соответствующее решение и что приняли его не для того, чтобы развязать войну с Ираном, а чтобы не допустить ее. Мол, лучше убить одного генерала-«ястреба», чем пострадают десятки и сотни невинных людей.

В ответ иранское руководство пообещало отомстить за доблестного сына иранского народа Сулеймани. Как всегда в таких случаях, были произнесены громкие слова о том, что земля будет гореть под ногами врагов и как раз десятки и сотни американцев ответят за преступление своих властей.

С первым шагом на пути отмщения Иран не промедлил. Состоялся обстрел американской базы в Ираке. Пресса подняла шум, но в ходе этого шума выяснилось, что от обстрела не пострадал ни один американский солдат. Мало того: американцы даже не заявили, что собираются вывести свою базу из Ирака. Наоборот – в ответ на требование иракских властей последовало заявление о том, что выход возможен лишь в том случае, если Ирак компенсирует США затраты на строительство этой базы. Чего, разумеется, иракские власти делать не собираются.

Ответ со стороны Вашингтона был, что называется, симметричным. Президент Трамп сделал 8 января новое грозное заявление на тему последовательности своей администрации в борьбе с иранской ядерной программой. Мол, у Ирана нет и не будет ядерного оружия, поскольку Америка этого не допустит. И вместо объявления войны объявил о введении новых санкций против Тегерана.

Возникает ощущение, что обе стороны сделали все, чтобы соблюсти лицо в глазах народов своих стран, и при этом не перешли черту, за которой активные военные действия стали бы неизбежными. А значит, те, кто всерьез опасался, что третья мировая война вот-вот начнется, могут на некоторое время успокоиться.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

ТОЛЬКО ЦИФРЫ

## Военные потенциалы США и Ирана

Ситуация на Ближнем Востоке продолжает оставаться напряженной. Пока Вашингтон и Тегеран обмениваются взаимными угрозами, эксперты подсчитали потенциалы обеих стран на случай открытого военного конфликта.

| | Армия США | Армия Ирана |
|---|---|---|
| Личный состав | 1.430.000 | 900.000 |
| танков | 7684 | 2820 |
| БМП | 6700 | 1720 |
| БТР | 17800 | 640 |
| буксируемых артиллерийских установок | 1593 | 2245 |
| САУ | 2000 | 590 |
| РСЗО | 830 | 765 |
| боевых самолетов | 2702 | 400 |
| миллиона резерва | 1.100.000 | 11.300.000 |

SALAMNEWS

КАТАСТРОФА

# Украіна назвала чатыры асноўныя версіі гібелі «Боінга» ў Іране



Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі і абароны Украіны **Аляксей Данілаў** агучыў асноўныя версіі крушэння «Боінга» ў Іране. Гэта:

– паражэнне самалёта зенітнай ракетай, у тым ліку ЗРК «Тор», таму што інфармацыя аб выяўленні абломкаў расійскай ракеты блізу месца катастрофы ўжо з'явілася ў сетцы інтэрнэт,

– сутыкненне з беспілот-нікам або іншым аб'ектам,

– разбурэнне і выбух рухавіка па тэхнічных прычынах,

– выбух унутры самалёта ў выніку тэракта.

Паводле слоў Данілава, прадстаўнікі Украіны ўзгадняюць з іранскімі ўладамі выезд на месца авіякатастрофы, дзе маюць намер шукаць абломкі ракеты. Сакратар СНБА таксама заявіў, што Кіеў спадзяецца на супрацоўніцтва з Тэгеранам па ўсіх пытаннях, уключаючы ўдзел у расшыфроўцы чорных скрынь, і дадаў, што ў склад украінскай камісіі ўвайшлі спецыялісты, якія расследуюць крушэнне «Боінга» ў Данбасе.

У той жа час Арганізацыя грамадзянскай авіяцыі Ірана апублікавала папярэднюю справаздачу аб крушэнні ўкраінскага «Боінга». Як лічаць у ведамстве, траекторыя палёту лайнера паказвае на тое, што пасля з'яўлення непаладкі экіпаж развярнуў яго назад, у бок аэрапорта. Пры гэтым пілоты не паведамлялі аб узнікненні пазаштатнай сітуацыі на борце.

Як вядома, трагедыя адбылася 8 студзеня раніцай: «Боінг 737-800» «Міжнародных авіяліній Украіны», які выконваў рэйс з Тэгерана ў Кіеў, разбіўся неўзабаве пасля вылету з аэрапорта. Загінулі 176 чалавек.

НЕСТАНДАРТ

# Беларус у Брытаніі: «Многія не змаглі там прыжыцца і вярталіся дамоў»

*Гродзенец Валянцін Нікольскі з 1990 года жыве ў Лондане, працуе вулічным музыкантам. Час ад часу наведвае родны горад, але вяртацца дамоў назаўсёды не збіраецца – яму ўтульней у туманнай краіне з вільготным кліматам. Ён пагадзіўся распавесці пра сваё жыццё, пра тое, чаму з'ехаў за мяжу і чаму не хоча вяртацца ў Беларусь.*



Музыканты ў Лонданскім метро.

## «У Лондан патрапіў, бо туды быў добра наладжаны «канал дастаўкі»

У сярэдзіне 1980-х Валянцін скончыў Гродзенскае музычнае вучылішча па класе баяна, адпрацаваў па накіраванні, адслужыў у войску, а вярнуўшыся дамоў, прыстойную працу знайсці не змог. Зарабляў тым, што іграў на вяселлях альбо банкетах. Грошы, каб пражыць, былі, але такое жыццё не здавальняла.

– *Музыканты ў той час ужо пачалі ездзіць на Захад, каб зарабіць,* – згадвае Валянцін. – *У мяне была каманда з трох чалавек, і мы вырашылі туды прабівацца. У Вялікабрытанію патрапілі з тае прычыны, што быў добра наладжаны «канал дастаўкі». Нам лёгка зрабілі ўсе дакументы, адкрылі візы, і гэта на той час нядорага каштавала.*

Лёс спрыяў гродзенскім хлопцам: ужо ў першы дзень яны спаткалі ў Лондане паляка, які навучыў, як выбраць месца, каб іграць і нікому не перашкаджаць. І ў першы ж дзень, пачуўшы ў метро іх музыку, з імі пазнаёміўся японец, які прапанаваў у яго пераначаваць.

– *Ён быў музыкантам, у яго я ўпершыню пабачыў добрыя прафесійныя інструменты, якіх дагэтуль ніколі не трымаў у руках,* – успамінае Валянцін. – *Цяпер узгадваю тыя часы і здзіўляюся, бо зараз у Лондане ўжо ніхто так проста не запросіць да сябе на начлег эмігранта.*

## «Было за што жыць»

Напачатку здымалі пакой усё групай – так было танней і зручней. Патроху зразумелі, дзе і калі лепш займаць добрае месца на вуліцы для работы. Праўда, ужо хутка пачалі выступаць паасобку, бо гэта для ўсіх стала больш выгадна.

Валянцін іграў на баяне кампазіцыі «Бітлз», Элтана Джона, французскія, цыганскія, яўрэйскія мелодыі. Савецкія і расійскія шлягеры ніколі не выконваў – не любіць.

– *У сярэднім у дзень працаваў каля трох гадзін. Толькі зрэдку, калі з'яўляўся адмысловы настрой альбо калі слухачы выказвалі зацікаўленасць, іграў і пяць, і шэсць гадзін.*

Паводле яго назіранняў, лонданцы і турысты ставяцца да вулічных музыкантаў вельмі прыязна, ніколі не ўзнікала ніякіх праблем. «Ганарары» былі даволі шчодрыя – у дзень мог зарабіць 70 фунтаў і нават больш. Праўда, з яго слоў, часам паліцэйскія прасілі спыніць ігру, але праблем з імі ніколі не ўзнікала.

– *У месяц кожны з нас зарабляў прыкладна паўтары тысячы фунтаў. 150 трэба было аддаць за жыллё, фунтаў 200 ішло на харчаванне, штотыднёвы праязны каштаваў прыкладна 12 фун*таў, – падлічвае выдаткі Валянцін. – *Астатнія грошы, зразумела, адкладваліся.*

Харчавацца стараліся дома, бо гэта было значна танней. Хаця даходы дазвалялі перакусваць і ў закусачных і пабах. Прадукты, кажа мой суразмоўца, у многім падобныя да нашых, праўда, больш якасныя. Нават знайшлі літоўскія крамы, у якіх можна купіць падобны да беларускага хлеб, сала, каўбасы, селядзец, розныя салаты, салёныя агуркі, квашаную капусту, нават гарэлку і піва.

## Сваёй прафесіяй дома зарабіць на жыццё не мог

Першы раз з Лондана ў Гродна Валянцін прыехаў праз 5 месяцаў пасля ад'езду, паколькі скончыўся тэрмін візы. Але амаль адразу зразумеў, што трэба вяртацца назад. Музыканту зарабіць на жыццё ў Гродне аказалася праблематычна, а ісці гандляваць на рынак не ўваходзіла ў яго планы.

– *Стала цяжэй атрымаць візу. Таму паехаў на тры дні па турыстычнай і застаўся ў Лондане нелегальна,* – узгадвае Валянцін. – *Дзеля таго каб легалізавацца, фіктыўна ажаніўся з дзяўчынай з былога Савецкага Саюза, якая мела брытанскае грамадзянства. Атрымаў від на жыхарства і, у прынцыпе, вырашыў асноўныя праблемы.*

За апошнія 20 гадоў, заўважае музыкант, жыццё ў Лондане падаражэла, але ў яго працы пачаліся перамены да лепшага: сталі запрашаць іграць у клубы і пабы. Заробак вырас, узровень жыцця змяніўся.

– *Падчас адпачынку я стаў ездзіць у розныя краіны, глядзеў свет, прызвычайваўся да перамен. Да ўсяго і медыцына для грамадзяніна Брытаніі бясплатная, і пенсія мне па старасці, калі дажыву, таксама будзе выплачвацца.*

У музыканта з'явілася магчымасць бываць на канцэртах знакамітасцяў кшталту Пола Макартні і слухаць малавядомых, але прафесійных рознажанравых музыкантаў у пабах. Зацікавілі шматлікія выставы твораў мастацтва. Дарэчы, большасць музеяў і галерэй у Лондане можна наведваць бясплатна, у тым ліку і Нацыянальны музей. Адным словам, жыццё музыканта стала значна цікавейшым, з больш шырокім кругаглядам і магчымасцямі.

– *Магу сказаць, што я значна вырас духоўна як асоба, у мяне развіўся мастацкі густ,* – заўважае Валянцін – *Акрамя таго, вельмі ўплывае тое, што жывеш у атмасферы прыязні, павагі, культуры, калі табе ўсміхаюцца, з табой вітаюцца, просяць прабачэння і ставяцца па-людску.*

*Дарэчы, падчас свайго жыцця ў Лондане я навучыўся цаніць сваё слова, ніколі не даваць абяцанняў, калі не ведаю, ці змагу іх выканаць. Я лічу, што Вялікабрытанія – краіна для людзей. Хаця некаторыя, хто прыехаў туды разам са мной, не змаглі там прыжыцца і вярталіся дамоў. А мне заўсёды было там лепей і цікавей, чым у Беларусі.*

## «Я хачу там проста жыць...»

Наступны раз у Гродна Валянцін прыехаў толькі праз сем гадоў. Адведаў бацькоў і блізкіх, набыў двухпакаёвую кватэру на заробленыя ў Лондане грошы. Але праз некалькі месяцаў ізноў пацягнула на Туманны Альбіён.

Цяпер ён наведваецца ў родны горад зрэдку, але кажа, што рабіць гэта з кожным разам хочацца ўсё менш і менш. Не радуюць яго на Радзіме посныя твары людзей, безграшоўе, грубасць прадаўшчыц у крамах, ідэалагічная хлусня з экрана тэлевізара, тое, што на вуліцы непрыстойна могуць лаяцца нават дзеці.

– *Тут такі змрок...* – дзеліцца Валянцін. – *Зойдзеш у рэстаран, а там паўсюль толькі гарэлка, інакш ніхто нават не заўсміхаецца. Музыку слухаць немагчыма, бо на музыку гэта не падобна, а людзі, як вып'юць, паводзяць сябе падчас бессаромна. Увесь час задаю сабе пытанне: дзе наша культура? Не ведаю, як я жыў ва ўсім гэтым раней?..*

Што тычыцца таго, што ён 30 гадоў іграе ў пераходзе метро, рэстаране альбо пабе, а не ў аркестры на вядомых сцэнах, – Валянцін не ўтойвае, што яму хацелася б быць знакамітым і выступаць па тэлебачанні.

– *Але ў Англіі я яшчэ навучыўся быць рэалістам, цаніць тое, што маю,* – сур'ёзна кажа суразмоўца. – *Я заслугоўваю таго, на што здольны. Галоўнае, што людзі тут мяне і маю прафесію паважаюць і ставяцца да мяне як да асобы. І я, дарэчы, за 30 гадоў сваёй прафесіі ні разу не здрадзіў.*

Валянціну зараз далёка за 50, сям'ю на чужыне ён не стварыў. Невядома, як магло б скласціся жыццё ў Беларусі, але ён настроены на тое, што і далей жыць будзе па брытанскім пашпарце.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**P.S.**Па просьбе суразмоўцы яго сапраўднае імя і прозвішча ў публікацыі зменена.

ЗВЕЗДНОЕ НЕБО – 2020

# Главные космические феномены

*2020 год будет хорошим годом для любителей наблюдать эффектные астрономические события. Давайте вместе отметим в календаре эти даты!*

## Видимость планет

На протяжении всего года с Земли можно будет любоваться другими планетами Солнечной системы.

Весной на небе вечерней звездой воссияет Венера. Самая яркая после Солнца и Луны звезда на земном небосводе будет видна в ясную погоду даже днем. В конце апреля Венера достигнет своего максимального великолепия и уйдет с вечерней сцены в конце мая, но уже в конце июня воссияет с новой силой на утреннем небосводе. Пика своей новой ослепительности Венера достигнет 10 июля и до конца года останется утренней звездой.

Марс можно будет наблюдать в начале года по утрам, а с июня – во вторую половину ночи. Особенно заметна Красная планета будет осенью: 14 октября Марс достигнет противостояния с Солнцем в созвездии Рыб и всю ночь будет виден на небосводе. Уже в первую неделю октября Марс максимально сблизится с Землей – разделять нас будут всего 62 миллиона километров. Четвертую от Солнца планету трудно будет не разглядеть в созвездии Рыб, по своей яркости Марс превзойдет даже Юпитер и будет сиять в вечернем небе до конца года.

Юпитер и Сатурн выйдут на небосклон весной. Сначала наблюдать их можно будет по утрам, а к июлю пребывание двух гигантов на небе растянется уже на всю ночь. В созвездии Стрельца они устроят гонку: в течение года более быстрый Юпитер догонит своего окольцованного соседа. 21 декабря планеты настолько сблизятся друг с другом, что создадут впечатление одной звезды. Встреча Юпитера и Сатурн называется большим соединением.



Поскольку Юпитер совершает виток вокруг Солнца за двенадцать лет, а Сатурн – за тридцать, видимое с Земли «объятие» двух гигантов происходит раз в двадцать лет.

Неуловимый Меркурий будет виден всего лишь несколько дней в году. Самая маленькая планета Солнечной системы достигает лишь небольших угловых расстояний от Солнца и обычно находится на дневном небе. В начале февраля и в конце мая есть шанс увидеть Меркурий на небе вечером, а конце июля и в середине ноября – на рассвете.

## Путеводные звезды и метеоритные дожди

Путеводными звездами зимой 2020 года станут небесный охотник Орион и самая яркая звезда земного небосвода – ослепительный бело-голубой Сириус из созвездия Большого Пса. Почти в зените будет мерцать желтоватая Капелла в созвездии Возничего. Дополнят красоту зимнего ночного неба Альдебаран в созвездии Тельца и звездные скопления Гиады и Плеяды.

Весной на небосводе засияют созвездия Льва, Девы и Волопаса. Главные и самые яркие звезды этих созвездий – Регулус, Спика и Арктур – образуют весенний путеводный треугольник. Летний треугольник составят голубоватая Вега, Денеб и Альтаир – главные звезды созвездий Лиры, Лебедя и Орла. А осенью на ночном небе засияет Пегас, в правом верхнему углу которого начинается созвездие Андромеды с его одноименной галактической Туманностью, воспринимаемой с Земли как небольшое мутное облачко.

Любителям загадывать желание при виде падающей звезды следует запастись свободным временем в августе и ноябре 2020 года. До ста падающих звезд в час можно насчитать, наблюдая за метеорным потоком, который ежегодно появляется со стороны созвездия Персей. На этот раз Персеиды проявят наибольшую активность между 9 и 13 августа. В середине ноября ожидается пик метеорного потока Леониды.

## Календарные факты

В начале 2020 года Солнце будет находиться в созвездии Стрельца. Утром 5 января Земля пройдет со скоростью 30 километров в секунду через свой перигелий, то есть максимально приблизится к Солнцу. В перигелии расстояние от Земли до Солнца составляет 147,09 миллиона километров, что на 2,5 миллиона километра меньше, чем среднее.

Астрономические весна, лето, осень и зима начнутся в 2020 году соответственно 20 марта, 20 июня, 22 сентября и 21 декабря.

Согласно григорианскому календарю, 2020 год является високосным в нем 366 дней: февраль насчитывает 29 вместо 28 дней.

По китайскому календарю, который насчитывает уже 4717 лет, это будет 37-й год 79-го цикла, начнется он 25 января и будет Годом Крысы. Исламский 1442 год начнется на закате 19 августа, то есть первым днем нового года будет 20 августа. Еврейский 5781 год начнется с переходом с 18 на 19 сентября.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Для меня нет тебя прекрасней

Купаловский театр опять будоражит зрителя. Опять – потому что только что прогремела премьера «Короля Лира» в постановке главного режиссера Николая Пинигина. Билетов на спектакль нет на два месяца вперед. Первые зрители уже называют спектакль гениальным…

И тут же выходит новая работа театра – спектакль на Камерной сцене. Режиссер Роман Подоляко представил свою постановку под названием «Первый» (хотя это, по иронии судьбы, как раз вторая самостоятельная работа хорошего драматического артиста, который стал на новую для себя, режиссерскую, стезю). Вообще название это, должна заметить, к теме пьесы имеет слабое отношение. Оно вообще ниоткуда. Какое бы подошло лучше? Здесь я пас, не подскажу. Но зато как зритель признаюсь: «Первый» нажал на самые чувствительные точки в моей душе – на материнские. Моментами мне было больно, грустно, а моментами – стыдно. За себя, за прошлую. Но именно за это я спектаклю очень благодарна. Я вышла какая-то обновленная. Очеловеченная, что ли.

Спектакль состоит из вроде бы немудреных детских – с 3 до 12 лет – воспоминаний очень личного характера. Их действительно записали со слов актеров, да и зрители присылали по просьбе режиссера свои детские истории. То есть материал в пьесе народный, отсюда и определение жанра спектакля как вербатим (по-латински значит «дословно»). Мне кажется, широкого зрителя он, чего доброго, может еще отпугнуть. Но – напрасно. Не надо шарахаться от нового. Форма на самом деле совершенно растворяется в таланте создателей спектакля. Документ так художественно обработан авторами Михаилом Зуем и Романом Подоляко, так грациозно, со всей страстью молодой души исполнен на сцене актерами Иваном Кушнеруком, Валентиной Гарцуевой, Кристиной Дробыш, Павлом Остроухом, что материал, который мог (и должен, по идее вербатима) коробить и шокировать уличной откровенностью, вдохновляет и даже облагораживает.

Во-первых, потому, что дети – это наше всё. Про ангелов можно спорить вечно, ведь правда? Во-вторых, какими же порой, оказывается, страшилищами выглядим мы, взрослые, в их детских глазах… Манная каша, горшок, дневной сон, а ведь еще и рыбные котлеты!.. И все в повелительном наклонении, в приказном порядке, в дидактическом тоне. А то вообще круглосуточный детский сад на пять дней в неделю. Мама, ты что, меня совсем бросила?!

Спектакль «Первый» человечный, как семейный альбом. Теплый, как большинство воспоминаний о детстве. Да, моментами болезненный, горький. Как совесть. Потому что у каждого родителя (а спектакль хоть и про маленьких детей, но для очень взрослых дядей и тетей) всегда живет чувство вины перед своим ребенком, который «вдруг» вырос, и ты смотришь порой и понимаешь, что сильно недодал ему всего-всего, а главное – своего родительского внимания. Своего такого «драгоценного» времени, которое ты всегда щедро тратил в основном на внешний мир. И только годы спустя – когда ничего нельзя изменить, вернуть, переписать – ты наконец открываешь для себя истину, что самым драгоценным в жизни был и остается он, твой ребенок. И карьера, достижения, амбиции, разборки-переборки – это все на самом деле лишь приложение к истинному твоему назначению: любить ближнего. Особенно малого ближнего своего.

В общем, поплакала я на спектакле от души. И посмеялась тоже. Вернулась домой – и быстрее писать взрослой дочке: «Когда увидимся?» Ответ в мессенджере получила более чем лапидарный: «Скоро». И – тишина. Что ж, теперь моя очередь сидеть и ждать ее внимания. Как когда-то она, малышкой, могла часами, не шелохнувшись, смотреть на входную дверь. Все в жизни циклично, все возвращается на круги своя. Помните, люди: мы очень нужны друг другу.

ЗАКУЛІССЕ

# Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ: «Спадзяюся, што спісы тыя назаўжды сатлелі…»

Вядомы беларускі выканаўца Зміцер Вайцюшкевіч у 2020 годзе мяркуе прадставіць на суд сваіх прыхільнікаў дзве новыя праграмы – на вершы Алеся Разанава і Алеся Ліпая. Апошнім часам музыкант шмат часу аддае канцэртнай дзейнасці, а таксама займаецца развіццём уласнай агрaсядзібы "Вайцюшкі" на Лідчыне, якая ўжо стала своеасаблівай арт-тэрыторыяй, дзе праводзяцца канцэрты, фестывалі і пленэры.

Доўгі час З.Вайцюшкевіч не мог свабодна ладзіць свае выступленні па Беларусі, бо знаходзіўся ў гэтак званых "чорных спісах". *"Спадзяюся, што спісы тыя назаўжды сатлелі і абмежаванняў больш не будзе. Бо толькі добрая песня можа аб'яднаць усіх беларусаў"*, – мяркуе папулярны выканаўца.

Антон ЗАГОРСКІ.



ГАСТРОЛЬ

## Большой театр собирается во Францию

Весной этого года белорусские артисты Большого приглашены в города Анже, Ренн и Нант, чтобы принять участие в семи уникальных спектаклях «Свадебки» Игоря Стравинского. В этом проекте примут участие солисты **Ирина Кучинская**, **Наталья Акинина**, **Виктор Менделев**, **Андрей Селютин** и 12 артистов хора Большого театра Беларуси. Главный хормейстер театра народная артистка Беларуси **Нина Ломанович** говорит, что «Свадебка» – произведение необыкновенно интересное и такое же трудное. Материал для оперного хора необычный, но он высоко поднимает профессиональный уровень каждого участника проекта.

– Да, когда артисты впервые открыли ноты «Свадебки», они были немного смущены. С таким они просто не сталкивались. Но постепенно мы начали разбирать сложнейший материал и всё расставили по местам. Неоднократно говорила и теперь повторю: хор Большого театра Беларуси справится с любым материалом! Да, у нас «Свадебка» Стравинского никогда не ставилась, но очень хотелось бы, чтобы этот материал от нас никуда не ушел. Если бы в дальнейшем это произведение появилось в нашем репертуаре, то вызвало бы колоссальный интерес, – уверена главный хормейстер театра.

В середине марта белорусские артисты отправятся во Францию, чтобы начать постановочные репетиции. Солисты и артисты хора Большого театра Беларуси вольются в коллектив артистов хора Анже-Нант Опера и музыкантов Высших центров художественного образования Ренна и Тура, который возглавит молодой французский дирижер **Реми Дюрюпт**.

Елена ЛУБНЕВСКАЯ.

СЛЫШАЛИ?

## Секс-работницы против пожара

В Австралии несколько месяцев полыхают лесные пожары, и это настоящая война против цивилизации. К началу 2020 года весь мир стал жертвовать континенту на борьбу со стихией. И, как пишет сайт TJournal, более миллиона долларов Австралия получила с неожиданной стороны – от секс-работниц и моделей, которые стали присылать пользователям обнаженные фото в обмен на пожертвования.

Все началось с 20-летней американки Кейлен Уорд, пообещавшей отправить обнаженное фото каждому, кто пожертвует хотя бы 10 долларов одному из фондов, которые помогают бороться с пожарами. Система простая: пользователи делают взносы, отправляют доказательства и получают снимок.

Пост модели стал вирусным: спустя несколько дней девушка объявила о достижении отметки в миллион долларов. Ей пришлось нанять ассистентов, чтобы справляться с потоком сообщений. «В какой-то момент я стала получать по 10 подтверждений пожертвований в минуту», – отметила Уорд.

Своим поступком Уорд вдохновила других моделей, которые зарабатывают в интернете продажей интимных фото. Десятки девушек поддержали ее идею, объявив об аналогичных сборах средств с помощью обнаженных снимков. Получается у них с переменным успехом: одни девушки за пару дней заработали несколько десятков тысяч долларов, другие – несколько сотен.

Модель Дженна Ли из Техаса с помощью своих снимков собрала на борьбу с пожарами 40 тысяч долларов. По ее словам, она сразу поняла, что поступок Уорд может перерасти в масштабную акцию: «Мы все – реальные люди с добрыми сердцами. Было очевидно, что это разойдется. Я ненавижу это говорить, но секс продается». Ли добавила, что получала около 100 сообщений в час.

Виктория ДРОЗД.

СТОП-КАДР

## У Віцебскім раёне ратавалі БелАЗ, які патануў у кар'еры

Падчас разгрузкі пад заднімі коламі машыны абрынулася скальная парода, і ён з'ехаў у ваду. На шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў. Ратавальная аперацыя рыхтавалася некалькі дзён, у ёй удзельнічаў 16-тонны кран, экскаватар і вадалазы. БелАЗ, які важыць некалькі дзясяткаў тон, выцягнулі на бераг.

Далейшы лёс выратаванага аўтасамазвала вырашыць спецкамісія завода "Даламіт", паведамілі ў прэс-службе МНС.





ЖАХ!

## Забіў і не заўважыў

Чарговае забойства, якое сведчыць, у каго ператварыліся некаторыя людзі, здарылася ў Мёрскім раёне.

У Віцебскай абласной міліцыі паведамілі, што 8 студзеня да праваахоўнікаў звярнулася жыхарка Чарэсаў. Жанчына распавяла, што 50-гадовы муж некалькі дзён не начаваў дома. Міліцыя высветліла, што апошнім разам яго бачылі ў гасцях у аднавяскоўца-рамесніка, які нядаўна вярнуўся з Расіі.

У хаце і знайшлі зніклага. Прычым яго труп знаходзіўся ў крэсле за сталом, дзе некалькі дзён ішло застолле.

Як высветліла экспертыза, у мужчыны была драпіна на галаве, ад якой ён і памёр. Уладальнік дома прызнаўся, што нанёс яму ўдар паленам падчас сваркі. З-за апранутага на галаву капюшона вяскоўец не адразу звярнуў увагу на здарэнне і працягнуў піць. Пазней, як прызнаўся міліцыянерам мужчына, у яго ўзніклі падазрэнні, што з госцем не ўсё ў парадку.

Заведзена крымінальная справа.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Нежеланные камни

*Казалось бы, человеческий организм и камни – несовместимые вещи. Но, увы, камни образуются и накапливаются в разных органах*

В последние десятилетия распространение желчнокаменной болезни превратилось почти в эпидемию. По статистике, от этой болезни страдает каждый седьмой житель планеты.

Камни в желчном пузыре и протоках имеют около 20% женщин и 10% мужчин. Операции по удалению желчного пузыря давно поставлены на поток. И ситуация нисколько не улучшается, скорее наоборот. Если раньше от желчнокаменной болезни страдали пожилые люди, то теперь камни накапливаются у совсем молодых людей, даже у подростков и детей.

У женщин камни образуются чаще, чем у мужчин. Врачи связывают это с гормональными особенностями

У жителей мегаполисов и больших городов желчнокаменная болезнь развивается намного чаще, чем у сельских жителей и тех, кто живет в маленьких городках.

Исследователи говорят, что желчнокаменной болезнью не болеют вегетарианцы. Объясняют они это тем, что белковая пища содержит много холестерина, а ведь именно из-за нарушения холестеринового обмена желчь густеет, происходит застой и образуется осадок, который и превращается постепенно в камни. Специалисты говорят, что к возникновению желчнокаменной болезни приводит ежедневное употребление ста миллиграммов холестерина в сутки.

Но в то же время известно, что желчнокаменная болезнь практически не встречается у эскимосов и у коренного населения Африки, хотя они и едят мясо. Возможно, в их питании есть что-то такое, что препятствует образованию камней. Немалую роль играет и генетика. Наследственность является одним из факторов, вызывающих развитие этой болезни.

Начало желчнокаменной болезни может быть вызвано также ожирением, сахарным диабетом, заболеваниями желудка, щитовидной железы, попаданием инфекции в желчные пути. Хотя и при этом камни образуются далеко не всегда.

К сожалению, спровоцировать начало образования камней у женщин может беременность и длительный прием оральных контрацептивов.

Огромное значение имеет образ жизни. Например, желчь густеет при малоподвижном образе жизни и неправильном питании. Пищевые же привычки, как известно, формируются в детстве. Но при наличии желания и воли их можно изменить, приложив, разумеется, определенные усилия, в любом возрасте. И лучше это сделать в профилактических целях, так как при возникновении болезни их придется менять поневоле.

Желчь, вырабатываемая печенью, накапливается в желчном пузыре, а потом уже из него поступает в кишечник и участвует в переваривании пищи. Опасность состоит в том, что желчь может застаиваться и густеть, кристаллизуясь и превращаясь в твердые камни.



Желчнокаменная болезнь может долгое время никак не проявлять себя. И человек узнает о ней, только испытав приступ. Изначально камни представляют собой кварцевый песок. Постепенно накапливаясь, они растут и увеличиваются, достигая внушительных размеров, например, пары сантиметров в диаметре. Но даже небольшие камни могут раздражать внутренние стенки желчного пузыря, вызывая воспаление, а застой желчи вызывает развитие патогенной флоры.

При обследовании камни выявляют на УЗИ.

Поначалу сигналами о начале болезни могут служить тошнота, рвота, горький привкус во рту, особенно по утрам, общая слабость. При перекрытии камнями протоков состояние резко ухудшается, возникает боль, и нужно срочное вмешательство медиков.

К обострению, как правило, приводит нарушение правильного питания, употребление жирной, копченой, острой, маринованной и соленой пищи.

Надо сказать, что по составу все камни разные. Медики подразделяют их на холестериновые, известковые, билирубиновые (пигментные) и смешанные.

Существует не так уж много терапевтических способов лечения желчнокаменной болезни.

Маленькие камни растворяют в течение не менее полутора лет приемом растворяющих лекарств и соблюдением специальной диеты. И после того, как камни растворятся, данное лечение периодически повторяют, так как камни могут образовываться снова и снова.

Большие камни удаляют вместе с желчным пузырем. Но это вовсе не избавляет от проблем, так как при отсутствии желчного пузыря желчь из печени постоянно поступает в желудок вне зависимости от приема пищи.

Известно также, что без правильной диеты избавиться от камней в желчном пузыре вообще невозможно. Потому что, как уже было сказано выше, состав желчи, ее густота и вязкость напрямую связаны с тем, что человек ест. Правильная диета способна сделать желчь более жидкой и способствовать ее оттоку. Что в свою очередь не дает расти уже имеющимся камням и предотвращает образование новых.

Питаться людям, имеющим камни в желчном пузыре, нужно дробно, не менее 5–6 раз в день. Частый прием пищи препятствует застою желчи и ее сгущению.

Тем, кто имеет камни, нельзя употреблять в пищу жирное, соленое, сладкое. Врачи советуют этим людям исключить из своего рациона жирное мясо и рыбу, копчености, колбасу, мясные бульоны, грибы, щавель, лук, чеснок, брюссельскую и белокочанную капусту, виноград, бруснику, малину, перловую и пшенную каши, фаст-фуд, чипсы, сдобу, свежий хлеб, консервы, бобовые, мороженое, шоколад, кофе, алкоголь. Употребление соли снижается до 10 мг в сутки.

Для снижения холестерина полезны гречневая каша, кисломолочные продукты, фрукты, овощи, цитрусовые, арбузы, красная рябина, напиток из шиповника.

Можно есть также нежирное мясо, нежирную рыбу, нежирный творог, слабосоленые сыры, яичный белок, белковый омлет на пару, рисовую, овсяную, манную каши, разваренные макароны, вчерашний хлеб, подсушенный бисквит, галеты, крекеры, овощные бульоны, цветную капусту, тушеные кабачки, тыкву, отварной картофель, свеклу, морковь, запеченные яблоки, орехи, тыквенные семечки, сухофрукты, несладкий мармелад, кисель, оливковое масло и немного сливочного.

Для того чтобы предотвратить сгущение желчи, в день нужно выпивать примерно 2,5 литра чистой воды. Врач посоветует также пить минеральную щелочную воду.

Пищу готовят на пару, отваривают, запекают, иногда тушат. Но никогда не жарят и не готовят во фритюре. При обострении болезни блюда перетирают или измельчают. Пища не должна быть ни горячей, ни холодной, только теплой.

Некоторые врачи для профилактики образования камней рекомендуют пить активированный уголь. Принимают его от 3 до 5 таблеток в день через полтора после еды, запивая водой. Курс – две недели. В год проводят два-три курса.

Существует множество народных рецептов по растворению и выведению камней из желчного пузыря. Но нужно хорошо понимать, что самостоятельно заниматься лечением желчнокаменной болезни опасно. Например, потревоженные камни могут перекрыть желчные протоки. К тому же растворить можно только холестериновые камни. Значит, нужно провести тщательное медицинское обследование. Поэтому консультация с врачом просто необходима.

(Из зарубежной прессы.)

